Кацярына Янушка →3



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

Каля Шудзялава → 12



http://niva.iig.pl

redakcja@niva.iig.pl

№ 12 (2914) Год LVII

Беласток, 18 сакавіка 2012 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



# Узяць асвету ў свае рукі!

Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК

**Польскія літоўцы апрацавалі стратэгію развіцця нацыянальнай асветы ўжо адзінаццаць гадоў таму назад і зараз мадыфікуюць яе пад патрэбы сённяшняга дня. Сваю стратэгію маюць украінцы і немцы. У рэшце рэшт прачнуліся і беларусы. Думаць пра апрацоўку стратэгіі заставілі нас абставіны і кашмарны стан падручнікаў, якія цягам апошніх пятнаццаці гадоў шмат страцілі на актуальнасці. Без дакумента, які мае вагу грамадскай дамовы, цяжка штоколечы змяніць, думаць пра развіццё, зіраць за працэсам навучання. І вось, 8 сакавіка, па ініцыятыве Барбары Пякарскай, старшыні аб'яднання АБ-БА ў Ваяводскай управе ў Беластоку адбылася першая сустрэча настаўнікаў і дзяржаўных чыноўнікаў адказных за асвету і нацыянальныя меншасці ў Польшчы.**

Сустрэчу адкрыў сам падляшскі ваявода Мацей Жыўна, які згадаў пра 44 асветныя ўстановы, у якіх вядзецца навучанне беларускай мове для больш за 3 300 асоб. Пра элементы стратэгіі і яе значэнне расказаў Дабеслаў Жэмянеўскі — начальнік аддзялення ў Дэпартаменце рэлігійных канфесій ды нацыянальных і этнічных меншасцей.

— Апрацоўка стратэгіі не павінна зацягнуцца больш чым год. У ёй павінен апынуцца аналіз асветнай сітуацыі, і на яе аснове трэба выпрацаваць стратэгію з мэтай захавання нацыянальнай свядомасці. Гэты дакумент з думкай пра вашу будучыню павінен, вядома, змяшчацца ў канонах палітыкі Польшчы. Самай важнай справай тут з'яўляецца празрыстая структура фінансавання, выкарыстанне асветнай субвенцыі для меншасцей, якая на сённяшні дзень вельмі карысная і складае ад 50 да 150 працэнтаў датацыі.

— Мне хацелася б, каб цвёрда і рашуча вы фармулявалі свае прапановы, — дабавіў.

Першым узяў голас старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі, які спачатку пахваліўся конкурсамі для вучняў і курсамі для настаўнікаў, ладжанымі ягонай арганізацыяй, адзначыў вялікую ролю Культурнага цэнтра Беларусі, які арганізуе конкурс „Пазнай Беларусь". Адзінай перашкодай у развіцці школьніцтва, на думку старшыні БГКТ, з'яўляецца абавязак дэкларатыўнасці (складанне дэкларацыі бацькамі ў пачатку школьнага года). Прысутныя ў зале настаўнікі і дырэктары адразу аспрэчылі апошні заклік, бо на практыцы абавязак дэкларатыўнасці нічога не мяняе. Сам старшыня знік пасля перапынку.

Здаецца, большасць прыезджых настаўнікаў не ведала пра што будзе сустрэча. Шмат месца і страсцей было адведзена справе падручнікаў, якія — як сказала Іаланта Грыгарук — „знеахвочваюць вучняў да вывучання мовы". Словы крытыкі былі накіраваны таксама ў бок Беластоцкай кураторыі. Калі іхнія працаўнікі хваліліся сваімі дасягненнямі, нехта ў зале спытаў: *А хтосьу нас чуў пра тую канферэнцыю, зладжаную ў канцы 2011 года?!*

Андрэй Сцепанюк, дырэктар Бельскага белліцэя спрабаваў навесці істотны тон сустрэчы. Ён сказаў пра ментальныя змены ў грамадстве, звязаныя з дэмаграфічнай дэпрэсіяй: — У наш час гэта школа змагаецца за вучня, а не вучань за школу. Гэта вельмі дрэнна ўплывае на працэс навучання. У такой сітуацыі настаўнік не заўсёды можа ажыццяўляць амбітныя планы.

Ігар Лукашук з Комплексу школ у Нарве і заадно дзеяч ЗБМ гаварыў, што неабходная большая адкрытасць школ на супрацоўніцтва з грамадскімі арганізацыямі і самаўрадамі. Самая навука мовы, як прадмета, не заўсёды ўплывае на фарміраванне нацыянальнай свядомасці. „Для мяне важней, каб вучань сказаў па-польску, што ён беларус, — гаварыў І. Лукашук, — чым той, які на прыгожай беларушчыне скажа, што ён паляк. Разам з навучаннем мовы трэба знаёміць з гісторыяй і асаблівасцямі рэгіёна, каб вучань разумеў сваю сувязь з месцам і грамадствам".

Васіль Ляшчынскі, дырэктар Комплексу школ імя Ярослава Касцыцэвіча ў Бельску, з саракагадовым стажам, адзначыў каштоўнасць ініцыятывы і з гонарам падкрэсліў, што Барбара Пякарская — выхаванка яго школы.

— Мы ўжо ў пачатку дзевяностых гадоў ездзілі з Генікам Вапам у Міністэрства адукацыі, каб нейк аблегчыць нашыя праблемы, — сказаў Васіль Ляшчынскі. — На жаль, нашае асяроддзе не было гатовае ўзяць справы асветы ў свае рукі. Беларускае школьніцтва на сённяшні дзень разбітае, яго ніхто не пільнуе, не бароніць. Добра, што ў канцы знайшліся ў нас людзі, якім справы асветы падаліся важнымі.

Васіль Ляшчынскі спытаў таксама пра юрыдычную моц стратэгіі. У адказ прысутныя пачулі, што дакумент мае моц грамадскай дамовы, таму на практыцы яна важнейшая за правa.

У час першай сустрэчы ўдалося дамовіцца з прадстаўнікамі ўрада на першы канструктыўны крок. Яўген Вапа прапанаваў, каб беларускі бок, які будзе працаваць у галіне стратэгіі, прадстаўляла аб'яднанне АБ-БА з Барбарай Пякарскай як старшынёй.

Да рабочай групы над апрацоўкай стратэгіі будуць запрошаны настаўнікі, дырэктары, самаўрадаўцы. Першыя матэрыялы павіны ўзнікнуць ужо да 15 красавіка г.г., у іх павінны быць аналіз і насветлены праблемы.

— Я заахвочваю, каб думаць перспектыўна, — сказаў віцэ-міністр адукацыі Міраслаў Селятыцкі, — каб у час апрацоўкі стратэгіі вы скарысталі інфарматычныя навінкі і каб сярод выдавецкіх прапаноў знайшліся электронныя падручнікі і дапаможнікі. Міністр прыяздобіў сваё выступленне гістарычным беларускім лозунгам-пажаданнем, які спасылаецца на нашую асвету, стагоддзямі патанаючую ў цемры: *Загляне сонца і ў наша аконца!*

Ажыццяўленню гістарычнага лозунга напэўна паспрыяюць еўрасаюзныя стандарты, якія патрабуюць ад дзяржаўчленаў празрыстых адносін з меншасцямі. Ці скарыстае свой шанц нашае асяроддзе — пакажа час. Напэўна, вялікай нечаканасцю было тое, што ініцыятыва заняцца стратэгіяй выйшла ад бацькоў, а не ад настаўнікаў і ўстаноў, якія зарабляюць на беларускім школьніцтве!

---

# 25 Сакавіка 1918-2012

# Дзень Волі

## ЗАПРАШАЕМ
### на святкаванні ў Беластоку

**23.03.2012**

**„Склеп з культурай" Аб'яднання АБ-БА ў Беластоку, вул. Чэнстахоўская, 6а**

$17^{00}$ Дыскусійны клуб АБ-БЫ „Пагаворым пра паэзію Віктара Шведа"

**У рамках сустрэчы:**

гутарка з Віктарам Шведам, спектакль на вершы Віктара Шведа „Вучыся. Вучыся? Вучыся!" у выкананні ўдзельнікаў тэатральнага гуртка „Гульня ў тэатр", фільм Міколы Ваўранюка пра Віктара Шведа, паказ здымкаў Вальдэмара Квяткоўскага

**24.03.2012**

$18^{00}$ **Тэатральная акадэмія ў Беластоку, вул. Сянкевіча, 14.** — „Цацачная крама" — спектакль у выкананні ўдзельнікаў тэатральнага гуртка „Гульня ў тэатр"

**25.03.2012**

$10^{00}$ **Царква Агія Сафія ў Беластоку, вул. Травяста, 5** — Св. Літургія, пасля Літургіі — малебен за беларускі народ

$14^{00}$ **Ваяводскі асяродак анімацыі культуры „Сподкі" па вул. Святога Роха, 14.** У праграме м.інш: дакументальнае кіно Міколы Ваўранюка, а таксама канцэрт беларускіх песень у выкананні дзяцей і моладзі.

**Запрашаюць:**

АБ-БА, Радыё Рацыя, „Ніва", Беларускі саюз



# Суцэльная паласа

Народная мудрасць сцвярджае, што жыццё чалавека можна параўнаць з чаргаваннем белых і чорных альбо, калі заўгодна, светлых і цёмных палосаў. Напэўна, у жыцці кожнага асобнага чалавека так і ёсць. А вось калі возьмем існаванне дзяржавы, то нешта гэтая філасофія не спрацоўвае. Яскравы тут прыклад — наша Рэспубліка Беларусь. Як выбралі сабе беларусы ў 1994 годзе прэзідэнта, так і надышла суцэльная чорная змрочная паласа. Васемнаццаты год запар няўхільнае паслядоўнае пагаршэнне сітуацыі. Пагаршэнне ва ўсіх сферах: гаспадарчай, фінансавай, становішчы з правамі чалавека і дэмакратыяй, дэградацыя грамадскай маралі, паглыбленне грамадзянскай нянавісці. Беларусь становіцца ізгоем усёй Еўропы, усё больш робіцца ізаляванай ад цывілізаванага свету. Калі ўвесь кантынент адчыняе межы, нават суседзі Украіна і Расія, дзе кіруюць аўтакратычныя рэжымы, здолелі дамовіцца пра бязвізавы ўезд сваіх грамадзян у многія краіны, Беларусь усё часцей называюць „чорнай плямай" на мапе Еўропы.

Дайшло да таго, што краіну пад сінім небам пакінулі ўсе амбасадары Еўрасаюза і рэальнай стала пагроза замарожвання альбо ўвогуле ліквідацыі дыпламатычных стасункаў. Уладар Беларусі без ценю сумневу адкрыта абражае прадстаўнікоў заходніх дзяржаў і гатовы спыніць з імі ўсялякія кантакты. Прычына такой агрэсіўнай пазіцыі спальвання ўсіх мастоў — сур'ёзнае маскоўскае заплечча. Крамлю выгодная палітычная і дыпламатычная ізаляцыя Беларусі, гэта абсалютна супадае з яго інтарэсамі. І ўжо многія палітолагі з сур'ёзных аналітычных цэнтраў прагназуюць, што Беларусь як суверэнная дзяржава знікне з палітычнай мапы свету зусім хутка — ужо ў 2015 годзе. Знікне — гэта значыць будзе цалкам інкарпараваная ў склад новай расійскай імперыі. Пуцін ужо прымераў на сябе тогу збіральніка славянскіх і постсавецкіх земель. У дачыненні да Беларусі ён ніколі асабліва і не хаваў сваіх імперскіх планаў. І калі Ічкерыю трэба было знішчыць дывановымі бамбардзіроўкамі, на тэрыторыю суверэннай Грузіі ўводзіць танкі, то Беларусь можна заваяваць куды працей — у дадатак да ўжо зробленага дастаткова паставіць тут сваю атамную станцыю і стварыць адзіную рублёвую прастору. Заробкі працаўнікоў на тых буйных беларускіх прадпрыемствах, якія ўжо прыватызаваныя Масквой, адразу выраслі ў два-тры разы. Такая вось прасценькая прынада, заглыкнуўшы якую, беларусы будуць змушаныя прызнаць пратэктарат Расіі ўжо нават дэ-юрэ. Невыпадкова адзін з нядаўніх дэмакратычных кандыдатаў у прэзідэнты Уладзімір Някляеў адазваўся на мінулым тыдні лістом-зваротам. Пасутнасці гэта крык адчаю, прычым асэнсаванага і звернутага да народа.

Ну, а вярхоўная ўлада, у адказ на еўрапейскія санкцыі, дарэчы, досыць стрыманыя і памяркоўныя, адрэагавала ў сваім стылі. Як кажуць, чорнаму сумленню і качарга шыбеніцай здаецца. Зноў „ворагамі народу" аб'яўлены грамадска-палітычныя лідары і актывісты. Складзены адмысловы спіс невыязных з краіны. На мяжы вядомых прадстаўнікоў апазіцыі затрымліваюць і не выпускаюць з Беларусі, хоць гэта абсалютна незаконна. Маўляў, нас не пускаюць у краіны Еўропы, то і вы нікуды не паедзеце. Але які можа быць закон у дзяржаве, дзе кандыдатаў у прэзідэнты яшчэ да абвяшчэння вынікаў выбараў жорстка збіваюць, садзяць у турму і катуюць, дзе чалавека за вывешванне нацыянальнага сцяга даводзяць да галадання на мяжы жыцця і смерці? Тут прывяду адно яскравае параўнанне. У тыя ж самыя дні, калі ў Віцебску засуджвалі Сяргея Каваленку да больш чым года турмы за бел-чырвона-белы сцяг, у гэтым жа горадзе баявы сабака ратвейлер, без намордніка выведзены на вуліцу гаспадыняй, пакусаў 10-гадовую дзяўчынку. Дзіця ад страшнай жывёліны адбіў рыдлёўкай выпадковы мужчына. А злачынную гаспадыню сабакі суд аштрафаваў на 450 тысяч рублёў. Вось такія законы, такія суды, такое разуменне справядлівасці: за вывешаны сцяг — год турмы, за калецтва дзіцяці — крыху больш 50 долараў штрафу. І такая ўлада хоча, каб людзі маўчалі, калі яна знішчае краіну і топча ўсе нормы маралі!

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Беларуская мандрагора

У свеце СМІ Аляксандра Лукашэнку называюць „ізгоем Еўропы". Ды які з яго ізгой, калі нават з прэзідэнцкай пасады няма як яго выкінуць. Укараніўся ён так у беларускай зямлі, як атрутная мандрагора. Што больш, стаў на яе падобны цюцелка ў цюцельку. Навонкі ён пасpaліты і ні зеле мандрагоры нічым не адрозніваецца ад атачэння. Быццам бы ён беларус, а па-беларуску не гаворыць. Быццам абараняе суверэнітэт краіны, але зусім не супраць зняволення яе ў лапах расійскага мядзведзя. Быццам прымае яго сяброўскім сняданкам, складзеным з беларускіх газавых труб, але ўжо намерваецца запрасіць яго на багаты абед з усёй беларускай гаспадаркі. Аднак пры адной умове — што захавае сваё прэзідэнцкае крэсла. А хай там і захоўвае, мабыць думае мядзведзь. Праўда, мусіць пакапрызнічаць, што гэты абед цяжкі для пераварвання, ды паколькі мае быць дармны, ды прытым у выглядзе пажыццёвага абанементу, дык глытне і абед, а потым і крэсла, а разам з імі і Аляксандра Лукашэнку. Бо такі з яго палітык, як з нашай Доды артыстка, якая на эстрадзе і х-мі кіне, і голы азадак каму трэба — хоць часцей каму не трэба — пакажа. Адно толькі, што Лукашэнка гэта не Дода і з усёй бессаромнасцю галаш дзяржавы... голы кулак паказвае суседзям. Ды таксама як і Дода, больш каму не трэба, чым трэба.

Нават калі паграбціся глыбей, Аляксандр Лукашэнка аказваецца быць падобным на мандрагору, якой корань вельмі ж нагадвае чалавечую фігуру. І галаву мандрагора мае не па парадзе, і рукі, і ногі. Спрабуй аднак яго вырваць — дык верашчыць яна — як прысягаюць найстарэйшыя людзі — так, што страх слухаць! А чым больш за яго цягнуць, тым страшней верашчыць мандрагора. Хто ў пару не заткне вушэй, той упадзе як муха. Возьмем для прыкладу былых апазіцыйных кандыдатаў на прэзідэнта — дзе яны? Яны ж былі, а быццам бы іх не было. Калі ўжо трупам не пападалі, дык напэўна трапілі ў немалую кабалу. Ці, аднак, беларусаў цікавіць іх лёс? Кажуць, што сок з мандрагоры дзейнічае як шапка-невідзімка і любіста заадно. Праўда гэта. Ужо новае пакаленне беларусаў, не гаварыўшы ўжо аб старэйшых генерацыях, здаецца не прыкмячаць, што за іхнімі спінамі вырабляе Аляксандр Лукашэнка. А гарбуе-вырабляе ён скуру на мядзведзі, якога ніколі не ўпалюе. А колькі розных завушнікаў, лізадупаў, жулікаў, але таксама і ўсіх наіўных, што мараць выключна абы спакой быў, выспеўвае для яго любоўныя серэнады? Я думаю, што яны ўсе разам складваюць большасць электарата на будучых выбарах на прэзідэнта Лукашэнку. Не, папярэдні сказ гэта не граматычная нязграбнасць. Прозвішча Лукашэнкі становіцца сінонімам. Калі адпаведна распаўсюдзіцца ў беларускай мове як раўнапраўны заменнік паняцця „прэзідэнт", няхай нікога не здзівіць, што „Лукашэнка" акажацца шматпакаленневым нацыянальным мнагалетнікам — прынамсі да таго часу, пакуль будзе існаваць беларуская дзяржава.

І так трымаецца на сваёй пасадзе беларуская мандрагора, атручваючы ўсё і ўсіх навокал. Праўда, ёсць адзін спосаб, каб яе ўдала выпалоць, але ж і вельмі жорсткі. Я тут спашлюся на аўтарытэт прафесара Уладыслава Капалінскага, які прапануе такі рэцэпт: мандрагору прывязаць да хваста сабакі, моранага голадам тры дні, пасля паказаць яму кавалак мяса; сабака, кінуўшыся на жыр, вырве мандрагору. Праўда, разверашыцца яна так, што сабака здохне, але і ёй будзе канец. І ўсё. Адно што сабакі шкада...

На шчасце там, дзе расце мандрагора, маланкава ялавее зямля. Таму, высмактаўшы з зямлі ўсе жывыя сокі, расліна таксама чэзне. І маеце: у Беларусі галапуючая інфляцыя, на паліцах крамаў штораз менш прадуктаў, хоць рыбныя кансервы даступныя ў вялікім выбары. Адно што банкі з-пад гэтых кансерваў робяцца з тоўстай бляхі, амаль што бранянай. Шэпчуцца, што таму, што іх змесціва становіцца неацэнным пры малеючай каштоўнасці беларускага рубля. Тым больш, што прамысловасць ужо канібалізавалася, што значыць, што калі ў якой фабрыкі чагосьці не хапае, дык тое забіраецца той, у якой таго яшчэ дастаткова. І так фабрыка за фабрыкай, уся беларуская гаспадарка абгрызе сябе да апошняй гайкі. І што тады будзе з Беларуссю? Бо што з мандрагорай — ужо вядома.

**Міраслаў ГРЫКА**

---

Вачыма еўрапейца

# Прэмія імя Гедройца



Некалькі дзён пасля таго, як пасла РП у Беларусі Лешка Шарэпку „папрасілі падацца ў Польшчу на кансультацыі", у Мінску пры нагодзе Міжнароднага дня пісьменніка першы раз была ўручана Літаратурная прэмія імя Ежы Гедройца. Атрымаў яе Павал Касцюкевіч за аповесць „Зборная РБ па негалоўных відах спорту". Прэмію назначаюць пасольства РП і Польскі інстытут у Мінску, Беларускі ПЭН-Цэнтр ды Саюз беларускіх пісьменнікаў. Ініцыятарам яе прысуджэння з'яўляецца якраз пасол Шарэпка. Лаўрэат атрымаў 105 мільёнаў беларускіх рублёў і пуцёўку на адпачынак у шведскім доме творчасці на балтыйскім востраве Готланд. Згодна з прадбачанием лаўрэата, частку грашовай узнагароды (фундаванай Сомбелбанкам, належаўшым да групы Гетын Холдынг) мае ён перадаць сям'і апазіцыянера Сяргея Каваленкі, які вядзе галадоўку пратэсту у карнай калоніі, якой за сваю дзейнасць пакараны на два гады. У размове з Польскім прэсагенцтвам Павал Касцюкевіч сказаў:

— Кніжка распавядае аб выдуманай зборнай камандзе, у якой ездзяць на сланах, скачуць на вярблюдах з трампліна і г.д. Гэта, вядома, метафара нашага жыцця і нас усіх. Я вось так адчуваю, як член зборнай Беларусі ў негалоўным відзе спорту.

У склад журы, па-за яе старшынёй Шарэпкам, увайшлі ад беларускага боку: празаік Барыс Пятровіч Сачанка — старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў, галоўны рэдактар часопіса „Дзеяслоў", паэт і перакладчык Андрэй Хадановіч — старшыня беларускага ПЭН-Цэнтра, паэт і празаік Уладзімір Арлоў, філосаф Валянцін Акудовіч, паэтэса, празаік і літаратурны крытык Людміла Рублеўская ды літаратурны крытык Маргарыта Аляшкевіч, а ад польскага боку: перакладчык Адам Паморскі — старшыня польскага ПЭН-Клуба, Пётр Казакевіч — дырэктар Польскага інстытута ў Мінску ды Яраслаў Сліўка — прадстаўнік Сомбелбанка. Адпаведна другое і трэцяе месцы занялі кнігі „Малая медыцынская энцыклапедыя" Альгерда Бахарэвіча і „Мяжа" Андрэя Федарэнкі. „Малая энцыклапедыя...", падобна як і „Зборная Рэспублікі Беларусь..." маюць быць выдадзены па-польску. Агулам да фіналу конкурсу дайшло шэсць аўтараў.

— Пераможцу было надзвычай цяжка вылучыць, паколькі выбіралі мы з добрай літаратуры. Ды была гэта прыемная праблема, — сказаў журналістам пасля ўручэння прэміі Андрэй Хадановіч.

— Ідэяй прэміі з'яўляецца падтрымка беларускай мовы, — у сваю чаргу адзначыў Лешак Шарэпка. — Члены беларускай эліты звычайна двухмоўныя. Калі маюць выбар: пісаць па-беларуску для некалькіх мільёнаў людзей ці па-руску для 150-200 мільёнаў, выбіраюць звычайна рускую мову.

Пра патрона прэміі ўспамінаў Барыс Пятровіч Сачанка:

— Ежы Гедройц у Беларусі асоба вядомая, нарадзіўся ён у Мінску і шмат зрабіў так для польскай літаратуры і культуры, як і ўз'яднання польскай і беларускай літаратур і культур.

Пры нагодзе намінантаў Літаратурнай прэміі імя Ежы Гедройца, варта прывесці інфармацыі. Згодна з апытаннем, якое правёў СБП, 13,3 прац. беларусаў не ўмее чытаць па-беларуску, 74,6 прац. не ўмее пералічыць ні аднаго прозвішча сучаснага беларускага пісьменніка. Згодна з паказчыкамі апошняга нацыянальнага перапісу насельніцтва ў Беларусі, у 1999-2009 гадах працэнт асоб, якія дома размаўляюць па-беларуску, упаў з 37 на 23 працэнты.

Зараз пасля ўручэння Паўлу Касцюкевічу прэміі мінская „Наша ніва" апублікавала ягонае новае апавяданне „Крот". Знамянальна гучыць у ім адзін са сказаў: „Нават дыктатар нічога не можа парабіць з кратом".

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Міра ЛУКША

# З руднянскага грудка

Веры Казбярук з Рудні, у дзявоцтве Рыгаровіч, адно наймацней трымаецца ў памяці: яе хрышчоная матулька. Кацярына Янушка была дваюрадная Верына сястра. Сустракаемся ў Верынай кватэры ў блёку ў Бандарах, на „аседлі”, там, куды пасялілі вялікую частку жыхароў вёсак, прапаўшых пад чашай Семяноўскага возера. Дачка Веры, Марыя Хлябіч, штогод збірае жыхароў Рудні ля крыжа, прысвечанага загінулай вёсцы. У Марусі засталіся вершы, напісаныя Кацяй Янушка, адной з першых тутэйшых бізнесвумен, па-руску. У папцы з вершамі, выведзенымі чорным атрамантам прыгожым почыркам ёсць таксама верш Віктару Шведу, беларускаму паэту (яго *сочинения читаются в каждой избе*). Кацярына Рыгаровіч, 1903 года нараджэння, сваю рускую мову прывезла з бежанства. Каця рускую школу ў Петраградзе кончыла, была медсястрой, абарочвалася ў культурнай кампаніі, шмат чытала. Стройная, высокая, дама.



Кацярына Янушка

— Пра бандарскае жыццё пісала, пісала і вершы-лісты, як для „лявіцы Зыкінай”, — кажа Марыся. — Дарагому ўнучку Міхаілу — гэта майму брату. І як сястра Аляксандра ў Аўстралію выехала, і для мяне — для „ўнучкі Мані”. Пісала мне ў Беласток пісьмо, як я вучылася. Пісала фацэцыю, як у нас бацюшку выбіралі... Пра тутэйшае жыццё пісала.

— Я пра сябе цяпер не думаю, — пацірае свае стомленыя вочы бабуля Вера. — Думаю, каб заступіла ноч і дзень пачаўся. Пяць лет як мой чалавек ляжыць. Мы самі з Рудні паходзім, нас „Плячакамі” называлі, на тым грудку, што мост быў, ведаеш, дзе гэты мост, — то мы там у доле былі. Там сем хатаў было нашых. А ў маёй памяці — адно мая матулька...

**... Прыехаў да Каці Сцёпа.**

Як я знала, што ён ужо ў Нараўцы, і едзе на фуры са сваёй маці на наш грудок. Бягу! — мы тут скраю жылі, хата наша першая была, а матульчына праз пару хатаў. А яна якраз у той момант падала і руку паламала. Угледзела я іх, як уязджалі ў нашу гулачку. Дзівімся, блізка не падходзім. Сцёпава маці была пасля ў Каці, яна яе глядзела, яна тут у яе і ўмярла... Каця выйшла: „Сцёпа, разве эта ты?” — кажа, а аж мне плакаць хочацца. Здымае Сцёпа капелюш з галавы. Спаткаліся са Сцёпам праз сорак гадоў! Хадзіў да яе да вайны столькі гадоў. Пасля, як выехаў у Амерыку, маўчаў. І як вярнуўся, дык у Рудні з год пажыў, можа і больш, а нарэшце паехаў, казаў: „Я тут замерзну. Там у Амерыцы няма марозу, а тут такі холад!”. Яшчэ летнік пакінуў майму айчыму. А матулька так пасля жыла, таргавала і ў Міхалове, мела там сваю краму.



Злева Марыя Хлябіч і Вера Казбярук

— Скляповаю была Каця Янушка, — прыгадвае Клаўдзій Казбярук з Бандароў. — Баявая кабета. Бізнесменка. Разбіралася ў эканоміцы. Лічыла, памятаю: ноль-адзін. Наймала на краму ў Рудні першую хату ў Болтрыка-„Сушкава”. Казалі, да яе прыехаў той Сцёпа-амерыканец. Я там не ведаю, калі ён выехаў у тую Амерыку, адны кажуць, што быў ён нямецкім паліцыянтам, іншыя, што ў свет з’ехаў яшчэ перад вайною, а іншыя, што ў Андэрса служыў, біўся пад Монтэ-Касіна. Прыехаў, калі можна было ўжо прыязджаць. Больш за сорак гадоў яго не было. Каця сваю маленькую хатку мела. Прыехаў Сцёпа да нашага „кулка”, заказаў бетонныя слупкі для плота, сетку, на бела тую Кацыну хатку памалявалі. Мы тыя слупкі нагрузілі аж на тры трактары: папіць будзе нагода: амерыканец прыехаў, Каця такая добрая баба, літар паставіць! Пакладзем тыя слупкі не так, каб адзін на адзін, але каб амерыканца ашукаць, што столькі навезлі! На адну прычэпу ўсё ўлезла б! І наш кіраўнік з паперамі, каб разлічыцца, а найбольш каб пабачыць амерыканца і загуляць. І Каця таксама хацела нарачоным пахваліцца. Так і было. Пасля той Сцяпан смяяўся: уся ваша фірма прыехала, сядзелі ўвесь дзень аж зашарэла! У іх у Амерыцы з нагоды такіх слупкоў адбылося б вяселле, — столькі мы выпілі. Усе суседзі прыйшлі!

Сцёпа ведаў Кацю пакуль паехаў першы раз у Амерыку, яшчэ з паненкі. Калі вярнуліся былі з Расіі, жылі ў Боўтрыках, бо хатаў нашых не было па той, калісьняй вайне. Яны пабудавалі хату ў Рудні. Пасля Сцёпа з Амерыкі даведаўся, Кацін брат напісаў яму, што і Рудня ёсць, што Каця зноў жыве ў Рудні. Але сказаў: ён там жанаты, мае там сям’ю, мае дачку ў Амерыцы.

Каця, калі Сцяпан з’ехаў быў у Амерыку першы раз, кінулася ў працу. Пазнаёмілася з Лявонам Янушкам з Хадароўкі. Лявон прыехаў быў да Рыгаровічаў і стаў прасіцца, па-нашаму: „Дзядзя Восіп, памажэце мне з Касенькай ажаніцца”. А яна, Касенька, ездзіла з братам Пецем, па тавар у краму. Служыла ў жыдоў. Завязе анучы тыя, што назбірае, Пеця ў Беласток, нябярэ сялёдак, хусток прывязе... Пасля адкрыў краму ў Бандарах. Я мамятаю, тады ягоны Янак быў малы, а я крыху большая, яны на мяне называлі „бальшая Верка” (я з 1926 года). Мая мама вярнулася з Расіі ў 1921 годзе. У бежанстве былі ў Петраградзе. Таму Пецю называлі „Петраградскім”. А Лявон меў сваю краму ў Хадароўцы. Убачыў быў Кацю, калі з братам прыехала па тавар. Спадабалася. Выйшла замуж Каця за Лявона Янушку. 11 гадоў жыла і працавала ў краме ў Хадароўцы. Лявон захварэў сухотамі і памёр. Каця вярнулася была ў Рудню, калі яе брат Пятро вярнуўся з Нямеччыны...

— Колькі Каця пра Сцёпу напісала! Цэлы альбом-кнігу вершаў склала! І пра тое вяртанне ад яе Сцёпы праз дзесяткі гадоў. Я яе бачыла, чытала, — прызнаецца Вера і спаглядае на папачку з апошнімі творамі Каці Янушка. — Але тую матульчыну кнігу ў мяне забралі, і яна цяпер у Беластоку ў спадчыннікаў Янка Рыгаровіча, сына Кацінага брата Пятра... Жыла яна з намі.

**Жыццё было ўсялякае.**

Людзі жывуць, жывуць і пасварацца ў радзіне... Пеця, матульчын брат, у немца быў. Якраз у нас тут хадзілі партызаны. А Пеця меў краму ў Бандарах, у Назаркавых. Я ў мае маладыя гады памагала яму грошы складаць, як ён ездзіў за ганучнікa, такія часы былі: па сёлах ездзіў, прадаваў сялёдкі з бочкі... У вайну прыехаў быў ад немца Пеця ў плашчы, пайшоў да кагось у вёску. Пасля бандзіты моцна нас скрыўдзілі; наша радзіна з Барначчыны як выехала, як немцы іх спалілі, і Забрады гарэлі... Акурат жніво было, мы дзівімся: такі велькі агонь! Маміна родная сястра да нас уцякла, у Слабодцы жылі... Пеця прыехаў, пабачыў, якое тут горэ... Тыя бандзіты! — яны не ўсім бандзіты, але я іх называю так як трэба; яны забралі ў нас дзежку саланіны, што маміна сястра з сынам з Барначчыны прывезла. Я пайшла раненька па ваду, бачу: у нас склеп адчынены. Думаю: а што гэта там такое!? Заглядаю ў склеп. А нам тую саланіну ўсю забралі, адно кусочкі пакінулі нашым барнацкім бежанцам. Тыя „парцізаны” гнездзіліся на гэтым нашым грудку. Я ўсё бачыла, ды нічога мы не казалі, бо за немцам усім страшна. Забралі былі якраз перад Вялікдзень, перад Вялікім постам, Колю Плячакова, павялі. Сабаку застрэлілі, у нас з хлява забралі свінню. Тамара Колева прыбегла, а ў нас сядзела поўная хата мужчын. Вось Пеця ішоў з вёскі, парцізаны той плашч, што ў ім прыехаў у водпуск з Нямеччыны, забралі. З яго крамы парцізаны ўзялі ўвесь тавар. Забраў Пеця сваю польку-Мальвіну ў шаліновай хустцы і паехаў назад у Нямеччыну. А Кацю Янушка пасля вайны пасадзілі ў сакольскую турму „за супрацоўніцтва з немцамі”.

— І ў турму да матулькі я ездзіла. За тую „współpracę z Niemcami”. Па-нямецку гаварыць умела. Мо дзе які вершык апублікавала ў час акупацыі? Ці мо за тое, што брат паехаў сам у Нямеччыну? Пасля вайны пасадзілі.

— Сцёпа вярнуўся з Амерыкі аж у сямідзесятыя гады, у пачатках, бо ў 1976 годзе пачалі ўжо „вывлашчаць” Рудню, — удакладняе Маруся. — Нашы пераехалі ў 1986 годзе, у „блёкі”. А пачалі выкідаць ужо ў 1976, 1978 годзе.

**— Мы апошнія выехалі**

з нашага грудка, — уздыхае Вера. — Ой, Божа мой, што там гаварыць, усяго было! У бежанстве мой тата памёр, калі мне было паўгода. Мама перажывала — трое дзяцей у Расіі! Мама вярнулася сюды, а брат, дзядзя Ваня, застаўся ў Саратаве... Але рэшта Плячакоў вярнулася на гэты грудок у Рудні... Адбудаваліся. Было ў нас шэсць кароў, то Трахімчук кажа: нашто вы гэту жывіну скупоўваеце?! Калісь рабілі! Хацелася, каб было ўсяго многа. А цяпер рукі, ногі паадмыкала... У нас гаспадарка была велька, найбольшая як на Рудню. 10 гектараў, а з альшынаю, з лонкамі было 14. У адзін год так папала, што стаяў яшчэ стог сена старога, дык мы тыя шэсць кароў купілі. Смяяўся Бяглюк; а дзе вы сена будзеце кісіць? Нашто было мне даіць тыя шэсць кароў рукамі? А яшчэ колькі дарабляелі. Да вывозкі. Дзярно вазіў. Меліярацыю пачыналі ў 1963, 1964 годзе. Прыходзіць да нас Лаўрэш Косцік: „Вазьмеце вы канцылярыю дахаты!” Як я вазьму канцылярыю, калі я не дам рады вырабіцца з работаю? Хату якраз я бяліла. Стары прыходзіць дахаты, і кажа: найгорш з харчамі, бо хата то е. Кіраўніку хата спадабалася. „Z jakimi krzakami? To my może wytniemy?” Дык і сталаваліся, мне было добра з панамі, не зачыняла, не абакралі, найвышай хлеб спяку, як выплата, то з’ядуць раз-два той хлеб. І смятана тым панам так смакавала. Былі Ярмоц, Самойлік і Куснер. Пайшлі потым да іншых, і зноў вярнуліся. Пасля, калі ўжо возера рыхтавалі, тыя паны прыйшлі да нас і кажуць: „Musicie uciekać”. Боўтрыкі затаплялі, то мы яшчэ ў Рудні былі. Вада падыходзіла пад Косцеву хату, Коля памагаў выносіць, ужо кладку рабілі да Боўтрык. Сцяпан Кардаш на парозе сядзеў, не мог нікуды выйсці. А хто то хацеў кідаць хату! Той Сцяпан урэшце здурэў, жонку выганяў, жонка ў скрыні спала. Цяпер ходзіць па Беластоку. Мы запісаліся да Бандароў. Нашы тыя паны хацелі, каб мы запісаліся на Луку, да Стоцкіх. Каб хаты перацягнуць, каб будынкі свае адкупіць. На адны таргі паехалі, але пасля кінулі. Нас на вельмі мала выцанілі. Я паехала ў Беласток да Ніны і да Колі, кажу Колю: „Хату пакінулі нам, каб мы перабудоўваліся”. А ён кажа так: „Дайце сабе *спокуй*, бо мяне не пусцяць з паліцы на *урлёпы*! Ці вы тую хату будзеце цягаць самі?”. Блёкі ўжо былі, мы прыйшлі апошнія да блёку. Ужо на Каляды былі гатовыя, тры разы ездзілі, усё пазабіралі. Каляду елі першы раз ужо тут. Закалолі адразу двое свіней, прадалі астатніх ужо кароў, каня... Бацька, Коля, пайшоў плачучы ў Боўтрыкі сказаць, што няма ўжо кароў. Ён і коней так любіў!

Кацярына Рыгаровіч-Янушка памерла ў 1988 годзе. У 1985 г. паявіўся яе адзіны верш у „Ніве” — пра мір, па-руску. У вершы (з 1968 года) Віктару Шведу напісала: *Я умру — как все умирают. Жизнь исчезнет моя без следа. Над могилой моей одинокой зашумит ветерок иногда...*

## Што ў Кляшчэлях?..

На канец лістапада 2011 года гміна налічвала 2 836 жыхароў, у тым ліку 1 441 жанчыну і 1 395 мужчын. У 2011 годзе нарадзілася 18 дзетак, памерла — 60 чалавек. Шлюбам пабраліся 25 пар. З пастаяннага жыхарства вырэгістраваліся 42 асобы, прапісаліся ў гміну 22 чалавекі. Вышэйпрыведзеныя лічбы не прадвяшчаюць мястэчку аптымістычнага прагнозу. Грамадства старэе, прытым лік жыхароў скарачаецца. Моладзь пакідае бацькоўскі кут і падаецца ў горад у пошуках працы і лепшых умоў жыцця. Паглыбляецца дэмаграфічная дэпрэсія. У мясцовым комплексе школ вучыцца адно 173 вучняў — 110 у пачатковай школе і 63 у гімназіі. У дзіцячым садку толькі два аддзяленні: у групе 5-6-годкаў займаецца 26 дзетак, а ў групе 3-4-годкаў — 20.

* * *

У мінулым годзе ў рамках праграмы „Выдаленне з тэрыторыі гміны вырабаў, што ўтрымліваюць азбест”, з прыцягненнем датацыі Ваяводскага фонду аховы асяроддзя і воднай гаспадаркі, з 51 гаспадаркі ліквідавана 133 тоны азбесту аб’ёмам 8 890 кубаметраў. Найбольш шыферу было знята ў Кляшчэлях (17 гаспадарак, 2 485 кубаметраў), Дашах — адпаведна 6/1 921 і Сухавольцах — 6/1 164. Кошт рэалізаванай задачы склаў суму 46 тыс. зл. Адначасова гміна паведамляе, што прыём заяў на ліквідаванне вырабаў з дадаткам азбесту на 2012 год адтэрміноўваецца. Калі Ваяводскі фонд аховы асяроддзя і воднай гаспадаркі прызначыць датацыю, тады адновіцца прыём заяў на чарговыя гады.

**(ус)**

Крытыка дапамагла

## Ссеклі пахіленую бярозу

Вялікая бяроза з шарамі амялы ў голлі пры ваяводскай дарозе ў Плянце (Нараўчанская гміна) віхурай была павалена на суседняе дрэва. Яна ў любы момант магла зваліцца на маставую. А вядома ж — па дарозе ездзяць аўтамашыны і веласіпедысты, ходзяць пешаходы. Найбольшая пагроза была тады, калі з адкрытай прасторы лугоў дуў вецер.

Дарожныя службы пахілага дрэва не заўважалі. Але вось у канцы лютага гэтага года яго ссеклі. Пра небяспечную бярозу пры рухлівай дарозе я пісаў у „Ніву”. Крытыка дапамагла.

## Новыя вуліцы

15 лютага гэтага года Рада Нараўчанскай гміны (Гайнаўскі павет) падчас сесіі прыняла пастанову аб прысваенні назваў новым вуліцам у вёсцы Семяноўка. Чатыры тамашнія вуліцы — дагэтуль безыменныя — атрымалі птушыныя назвы: Лебядзіная, Буслiная, Жураўлёвая і Плiскавая. Назвы абавязваюць ад 4 сакавіка.

## Выбоіны

У асфальтавай маставой ваяводскай дарогі ў Новым Ляўкове і ў Плянце ўтварыліся глыбокія і таму небяспечныя выбоіны. Найбольш яны дакучлівыя для веласіпедыстаў, а і аўтобусы ездзяць сярэдзінай дарогі або перазджаюць з аднаго боку на другі — дзе менш „дзірак”. Якая гэта язда!

Дарожная служба, „залатай” выбоіны!

**(яц)**

Тэкст і фота
Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Пагляд на Бірму



**Чарговую выставу мастакоў з Беларусі можна было паглядзець апошнім часам у беластоцкай галерэі „Агарт” (вул. Юравецкая, 34). У гэты раз свае працы паказала 32-гадовая Наташа Ляпкіна з Гродна. Яе карціны інспіраваныя Бірмай, а выстава мае загаловак „Мінгалаба”, што значыць „Вітаю”.**

Сёлета ў „Агарце” гэта ўжо другая экспазіцыя беларускага мастака. На пераломе студзеня і лютага можна тут было пазнаёміцца з карцінамі Вікторыі Ільіной. На яе выставе п.з. „Правінцыя” паказаны быў крыху таямнічы і насычаны колерамі станковы жывапіс, прысвечаны пейзажу беларускіх прадмесцяў, мястэчак і вёсак ды нацюрморты. Зусім адрознымі, так у тэматыцы, як і ў мастацкіх прыёмах з’яўляюцца карціны Ляпкінай. Гэта свайго роду падвядзенне падарожжаў мастачкі ў Бірму, краіну ў Індакітаі, дзе ў 90% пражываюць будысты. Пяць прац на выстаўцы (у тым ліку выкананых на натуральнай бірманскай паперы) гэта творы аўтара якраз з Бірмы, МПП Ін Мінта (MPP Yei Myint), якому гродзенская мастачка рашыла зрабіць прамоцыю ў Еўропе, а які стаў адным з яе майстроў. Сама Наташа Ляпкіна кончыла ў 1998 г. факультэт мастацтва ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы. Яе дыпломная праца пад кіраўніцтвам праф. Аляксандра Дулуба была прысвечана спосабам выконвання эскізаў і рысункаў чалавека. І якраз выявам людзей мастачка верная да сёння. На беластоцкай выставе былі галоўным чынам партрэты жыхароў Бірмы і агульныя сцэны з дакладна выкананымі дэталямі, як у карцінах намаляваных на палатне „Каралеўства геконаў” ці „Абучэнне”. У сваіх карцінах аўтарка прымяняе вельмі яркія колеры, багатае здабленне, кветкавыя матывы, характэрныя для Далёкага Усходу. Выставу адкрываў ейны аўтапартрэт выкананы на чырвоным фоне.



У час вернісажу мастачка расказала „Ніве” аб сваіх уражаннях з Бірмы:



— Бірманскі народ вельмі адкрыты на людзей з Захаду. Нават у глыбокай вёсцы людзі нам усміхаюцца, кажуць „Мінгалаба”. Я здаўна інспіруюся культурай Усходу, але калі прыехала ў Бірму, дык рашыла, што гэтая краіна будзе тэмай выставы, асабліва бірманскі народ, які вельмі адрозніваецца ад народаў Захаду. Калі трапляеш у Бірму, складаецца ўражанне, што ты прыехаў у краіну, якая спынілася ў месцы, а ў прынцыпе, што час там вярнуўся дзесьці ў шасцідзесятыя гады. Цяжка там сустрэць шмат турыстаў. Гэта закрытая краіна. Таму падарожнікі з Захаду для мясцовых здаюцца быць экзотыкай, ды мо таму мясцовыя ідуць з імі на кантакт. У нас, скажам, у Беларусі, людзі ставяцца да іншых больш стрымана, прынамсі ў параўнанні з Бірмай.

Успамінала:

— У Бірме кідаецца ў вочы ў першую чаргу тое, што ўсе там смяюцца. Наша краіна больш сур’ёзная, памяркоўная. Вялікі ўплыў на такія паводзіны мае будызм, але і больш гарачы клімат, які там пануе. Прытым туды не дайшоў капіталізм. Калі я прыехала ў Бірму з мужам, прыгадаўся нам Савецкі Саюз. Беларусь гэта ўсходняя Еўропа. Ад Захаду адрознівае нас спосаб жыцця і ментальнасць, хоць катэгарычных адрозненняў паміж намі і Захадам няма, ну, вядома, па-за геаграфіяй.

Мы спыталіся, як завітала ў Бірму.

— Мы былі запрошаны на будысцкую канферэнцыю ў Бангкок у Тайландыі. Запрасілі нас як дэлегатаў з Беларусі, таму што мы з мужам — будысты. У Гродне мы, мабыць, з’яўляемся адзінымі будыстамі. Як такога будысцкага храма ў Беларусі няма. Функцыянуем ва ўласных хатах. Быўшы ў Тайландыі, рашылі мы пры нагодзе пабачыць гэтую старажытную краіну, якой з’яўляецца Бірма.

Аб сваім бірманскім маэстра Наташа Ляпкіна сказала нам: — МПП Ін Мінта сустрэлі мы выпадкова праз пасрэдніцтва аднаго французскага маршанда. Задзівіў мяне тым, што ён вельмі сучасны, гэта значыць, што яго карціны не выглядалі як традыцыйнае бірманскае мастацтва, бо гэта сумесь заходніх уплываў і яго асабістых бірманскіх адчуванняў. Сам ён прызнаецца, што яго любімым мастаком з’яўляецца Вінцэнт ван Гог. Ён увесь час у эксперыментах. Дарэчы, калі мы прыехалі ў сталіцу Бірмы, задзівіла нас, што ў галерэях пабачылі мы шмат карцін, у якіх цараць сучаснасць і высокі прафесіяналізм.

Наташа Ляпкіна першую сваю выставу паказала ў Варшаве. У той час рэкамендавала гродзенскія пейзажы. Цяпер прызнаецца:

— Сутнасцю майго жывапісу з’яўляюцца людзі, іх твары. Час ад часу эксперыментую, ды абстрактнае мастацтва гэта не мая страсць. Хачу паказаць красу чалавечага цела, якраз твараў і характараў.

Як прадбачвае Агнешка Багінская, разам з мужам уласніца „Агарта”, паказ твораў Наташы Ляпкінай гэта не апошняя выстава творчасці беларускіх аўтараў. Наступная ўжо неўзабаве.

Размова з ксяндзом **Тадэвушам Ісаковічам-Залескім**, членам Супольнай камісіі ўрада і нацыянальных і этнічных меншасцей, духоўнікам Каталіцкага касцёла армянскага абраду, удзельнікам антыкамуністычнай апазіцыі ў ПНР, не хаваючым сваіх правых поглядаў, таксама спрэчных адносна люстрацыі Касцёла

# Не перапіс, а агляд

**„Ніва”: — *Якая ў Вас ацэнка таго, ці нацыянальны перапіс пакажа сапраўдныя даныя аб ліку нацыянальных меншасцей у Польшчы?***

**Тадэвуш Ісаковіч-Залескі:** — Так як і іншыя прадстаўнікі меншасцей, якія ўдзельнічаюць у працах супольнай камісіі на пасяджэнні ў Беластоку, маю засцярогі да гэтага перапісу, бо баімся, што не пакажа ён сапраўдных вынікаў, прытым па розных прычынах. Гэтыя прычыны ў розных частках Польшчы іншыя. Думаю, што будзе ён толькі нейкай спробай ацэнкі, колькі ёсць меншасцей у Польшчы, а не поўным вынікам. Пакуль што маем некалькі месяцаў затрымкі. Некалькі разоў ужо абяцалі, што вынікі будуць абнародаваны. Фактычна ёсць боязь, што палітыкам можа не спадабацца тое, што атрымаецца, што меншасцей больш, чым было паказана. Я думаю, што трэба выяўляць сапраўдныя вынікі. Напэўна, напрыклад у выпадку мешаных сужонстваў, некаторыя меншасці расцярушаныя, а ў выніку паланізацыі — так, як у выпадку армянскай меншасці — наступаюць працэсы асіміляцыі. Аднак гэты стан трэба паказаць па-сапраўднаму.



Фота Мацея Халадоўскага

**— А ці можна сказаць, на што пакрыўдзілася на пасяджэнні супольнай камісіі ў Беластоку Люцына Новак з кіраўніцтва Галоўнай статыстычнай установы (ГСУ), што ў выпадку леташняга перапісу можна гаварыць пра „перапісную змову”?**

— Не, не, не. Я б гэтыя крайнасці адкінуў. Гэтую першую, што ўсё будзе супер і будзе верагоднае (так мяркуе ГСУ — М. Х.) і тую, што ўсё будзе неверагодным. Як заўсёды — праўда пасярэдзіне. Шмат будзе залежаць ад таго, якая будзе інтэрпрэтацыя атрыманых даных. Ведаю такія выпадкі, назіраючы не толькі за армянскай меншасцю, што нават браты і сёстры інакш вызначалі сябе па нацыянальнасці. Прытым ёсць шмат людзей, што наплываюць у Польшчу з былога Савецкага Саюза і далей з Азіі. Так ёсць у выпадку армян, што прыязджаюць сюды з Арменіі, Грузіі і Расіі, да таго далёкай, значыць, з Сібіры, і раз іх улічваюць, а раз не. Невядома, як гэта будзе ў апошнім перапісе, які будзе прыняты крытэрый. Напісанне таго, што з'яўляешся грамадзянінам Польшчы, у некаторых выпадках таксама не да канца сапраўднае. Гаворка пра людзей, якія ў Польшчы легальна ад дваццаці гадоў, а іхнія дзеці ходзяць у польскія школы, адчуваюць сябе польскімі грамадзянамі, ды фармальна не маюць адпаведнай паперчыны, гэта значыць не могуць атрымаць польскага грамадзянства. Кранае гэта шмат якую меншасць у Польшчы. Будзе падзел унутры саміх меншасцей на легалізаваныя і тыя, што нелегалізаваныя.

**— Дык што трэба зрабіць, каб у Польшчы стала вядомым, які фактычны лік меншасцей?**

— Ваяводскія ўлады, асабліва так, як ёсць у Падляшскім ваяводстве, дзе ад вякоў кампактна пражывае меншасць тутэйшая, а не іміграты, спрабавалі зрабіць уласныя ацэначныя даследаванні, не адмаўляючы даследаванняў зробленых ГСУ у рамках нацыянальнага перапісу. Дарэчы, даследаванне ГСУ не было цэласным, бо не даследавалі сто працэнтаў польскай папуляцыі, значыць, фактычна было гэта зандаванне, агляд. Ноччу паміж пасяджэннямі супольнай камісіі ў Беластоку я быў заквартараваны ў Цэнтры праваслаўнай культуры па вуліцы Святога Мікалая. Я пайшоў у тамашнюю бібліятэку і перагляуў некалькі кніг. І дайшоў таксама пасля гэтых чытанняў да высновы, што калі б ваяводскія ўлады прыглядзеліся меншаснай праблеме, нягледзячы на тое, што пакажа перапіс, а фактычна як ёсць у глыбінцы, дык мелі б рэальнае бачанне. На жаль, арыентуюцца ў гэтым улады гмін ці паветаў, ды на ўзроўні ваяводства сапраўднае бачанне праблемы не існуе.

**— Я думаю, аднак, што такія перапісы на ваяводскім узроўні, з пункту гледжання юрыдычных вынікаў, для меншасці не мелі б большага значэння.**

— Я думаю не пра перапісы, а пра арыентацыю без спасылкі на прававую норму, якой баяцца меншасці, — што ў залежнасці ад шматлюднасці паасобных меншасцей прапарцыянальна размяркоўваюцца грошы. Не можа быць такога каэфіцыента. Адначасова, тут, на Падляшшы, дзе маюцца традыцыі даўняга Вялікага Княства Літоўскага, на стыку шматлікіх культур, меншасцей, цывілізацый і веравызнанняў, трэба было б дбаць аб гэтую разнастайнасць, паказваць як прыклад, а не прабаваць усіх уніфікаваць. Пры нагодзе, калі гаворка пра акты ксенафобнага характару, дык падчас пасяджэння супольнай камісіі ў Беластоку не хапіла мне „кропкі над і”, значыць, спробы вызначэння, якія асяроддзі за імі стаяць. Ці гэта хуліганства і дурнота, ці гэта, усё ж, было інспіраваным. Для мяне гэта асноўная праблема. Я, вядома, вораг гэтых ксенафобій. Інакш змагаюцца з чалавечай дурнотай, ці як гэта інакш назвалі „кібольствам”, а інакш, калі хтосьці свядома інспіруе і нацкоўвае, а яшчэ хтосьці на гэта дае нейкія грошы. Так ці іначай, гэта супраць прыгожай ягелонскай традыцыі тут, на Падляшшы.

**— Ці, на Вашу думку, ёсць такія асяроддзі, што такія дзеянні інспіруюць, і якія гэта асяроддзі?**

— Гэта, мабыць, асяроддзі, якія на гэтым прабуюць зрабіць палітычную здзелку. Я лічу сябе польскім патрыётам, ды лозунг „Polska dla Polaków” для мяне — непрымальны.

**— Гэты лозунг некалькі гадоў таму рэкламаваў тагачасны правы ломжыскі дэпутат, сёння правы еўрадэпутат Міхал Камінскі.**

— (*Смех*) Ну, так. Ды гэты лозунг — немагчымы. Я асцерагаў бы перад такой думкай, што калі хтосьці праваслаўны, то напэўна „рускі”, як кажуць.Трэба ўшанаваць традыцыю. Я з трохнацыянальнай і трохканфесійнай сям'і. Нарадзіўся ў цэнтры Кракава. Ад маіх бацькоў і дзядоў чуў штосьці іншае ад таго, што скрываецца за такім лозунгам. Меў я тое шчасце, што былі ў мяне вось такія бацькі і дзяды, у іншых, можа, такіх няма. Тут, на гэтай тэрыторыі, асабліва праз школы і СМІ, трэба гэтую пашану ўмацоўваць.

**Размаўляў Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

## Міхалоўская дэмаграфія

У Міхалоўскай гміне (Беласточкі павет) пражывае 7 088 чалавек. У 2011 годзе нарадзілася 59 дзяцей і памерлі 102 асобы. Лік жыхароў паменшаў на 43 асобы.

Цяпер у горадзе Міхалова пражывае 3 257 чалавек. У мінулым годзе нарадзілася ў горадзе 27 дзяцей ды памерлі 22 асобы.

Найбольшымі вёскамі ў Міхалоўскай гміне з'яўляюцца Новая Воля — 312 жыхароў, Ялоўка — 276, Бандары — 261, Шымкі — 215, Навасады — 176, Казімярова — 170, Тапаляны — 156, Жэдня — 146, Саколе — 130, Геранімова — 126, Юшкаў Груд — 122, Кабылянка — 119, Цісоўка — 98, Пянкі — 78, Мастаўляны — 76, Масціска — 64 і Азяблы — 61 жыхар.

А вось дэмаграфічныя цікавінкі: як было раней і як ёсць цяпер, як змяншаецца лік вясковага насельніцтва. У Новай Волі ў 1950 годзе пражывала 588 чалавек, у 1990 годзе — 371, а ў 2011 годзе — 312. Вёска Бахуры ў 1960 годзе налічвала 218 жыхароў, у 1990 годзе — 97, а зараз — 60. У Бяндзюзе ў 1980 годзе жылі 93 асобы, у 1995 годзе — 77, цяпер — усяго 30 чалавек. Хто б мог падумаць, што ў 1950 годзе ў Цісоўцы было ажно 410 жыхароў, а цяпер толькі 98. У Дублянах у 1950 годзе было 110 жыхароў, а зараз іх усяго... 16. Але тут прыбылі 2 асобы (у 2009 г. было іх 14). Цяжка сабе ўявіць Ялоўку ў амаль 800 асоб у 1950 годзе, у якой зараз — 276 жыхароў.

У Гознай пражывала нават 170 асоб, але ўжо ў 2009 годзе — 30, а ў 2011 годзе — 26. Лявонавічы налічвалі 308 жыхароў, а цяпер іх усяго 48 (у 2009 г. — 52 жыхары). З Новай Лупляніі ў 295 асоб засталіся 34 (у 2009 г. — 36 асоб).

Падае лік жыхароў вёскі Навасады з 521 у 1950 годзе на 176 у апошнім часе. У 1990 г. было 257 навасадаўцаў. У мінулым годзе тут нарадзілася ўсяго адно дзіця ды памерлі дзве асобы. На працягу двух апошніх гадоў выехала 7 асоб.

У 2011 г. найбольш дзяцей нарадзілася ў Міхалове — 27, у Казімярове — шэсць, у Геранімове і ў Шымках — па трое, у Цісоўцы, Ялоўцы, Аднозе і ў Тапалянах — па двое.

У мінулым годзе найбольш людзей памерла ў Міхалове — 22, у Ялоўцы — 11, у Шымках — 9, у Тапалянах і ў Залешанах — па 5 ды ў Казімярове, у Новай Волі і ў Пяньках — па 4 чалавекі. Найхутчэй пусцеюць вёскі Ялоўка, Шымкі і Залешаны. Да адыходзячых у нябыт далучыла вёска Калітнік. Не сустрэнем ужо дошкі з назвай пасялення Розенталь.

Цяпер адзін чалавек жыве ў вёсцы Буды. Па двух жыхароў маюць Новыя Кухмы і Бярэзіна, па трох — Курылы і Такароўшчына, па чатырох — Ганчары і Пулько, пяць — Старыя Кухмы, па шэсць — Крукоўшчына, Раманава і Сахаркі, сем — Гарбачы, восем — Займа і дзесяць — Майдан. У гэтых вёсках няма хрэсьбінаў, толькі пахавіны. Або ані адных, ані другіх. Застой на кароткі час. Вёсачкі ціхенька паміраюць. Вось такая наша гэтак званая ўсходняя сцяна.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Адкрыць гімназістаў на добрую энергію!



— Pani będzie nas uczyć? — прывіталі мяне здзіўленыя гімназісты з Нарвы. Яшчэ да сустрэчы мяне папярэдзілі: гэта самы нягжэчны клас у школе. І сапраўды — спачатку складана было злавіць нам кантакт. Сярод кампаніі хлапчукоў панавала стомленая разгубленасць. Адны хацелі пайсці на рэпетыцыі спеву, іншыя пагуляць у футбол, нехта залёг на парту паспаць... Праўда, час нашай сустрэчы не спрыяў вучням, гэта быў ужо восьмы ўрок, час, калі думаеш пра адпачынак.

— У малых мястэчках, такіх як Нарва, вельмі цяжка адкрыць маладых людзей на канструктыўную актыўнасць, — кажа Ігар Лукашук, настаўнік і заадно намеснік дырэктара школы. — Усё патрабуе працы, часу. Цягам апошніх тыдняў у школе ідзе арганізацыя музычнага гурту, ладзяць праверачныя рэпетыцыі. Спачатку не было ахвотных, усе прыкідваліся смяртэльна стомленымі, занятымі. З часам прапанова пачала ажыццяўляцца, набіраць тэмп. На сённяшні дзень ужо шмат зацікаўленых.

— Ёсць тут вялікі патэнцыял, — кажа Ігар Лукашук, — але той, хто не жыў у такім асяроддзі, не мае паняцця як цяжка адкрыць маладых людзей на энергію. На ўроках размаўляюць пра мясцовыя каштоўнасці, краязнаўства. Цягам бягучага года наведалі Шчыты, дзе сустрэліся з Уладзімірам Навумюком і айцом Гаўрыілам. Апошняя навіна зусім збіла мяне з панталыку, паколькі скіт манаха знаходзіцца непадалёк Нарвы, ва ўрочышчы Кудак.

Хоць спачатку гімназісты прыкідваліся, што нішто і ніхто ім не цікавы, наша сустрэча прайшла ў прыкладным засяроджанні. Пасля, калі мы прапанавалі конкурс, бліскуча спрацавала інтэлігенцыя і рэфлекс. У класе ведалі ўсё і пра ўсіх!

— Гэта арыгінальная карціна, — кажа Ніна Абрамюк, якая вучыць другі клас гімназіі, — бо тут амаль адны хлопцы. І яны ходзяць на ўрокі ад пачатку...

Пры нагодзе мы пагутарылі пра поспехі ў дэкламатарскім конкурсе „Роднае слова”. Сярод гімназістаў да цэнтральнага этапу прайшоў Караль Лукша (з трэцяга класа).

Хоць, калі ідзе пра асаблівасць Нарвы, тут з году ў год маюцца пераможцы ў конкурсе гавэнды. У гэты раз зноў паспяхова выступілі і заваявалі галоўныя прызы Уля Беразавец (першае месца) і Караль Лукша (другое месца). Калі ідзе пра алімпіяду па беларускай мове — тут перспектыва для Пачатковай школы. Вось трох вучняў чацвёртага класа заваявалі ўжо званні лаўрэатаў! А што будзе далей?

На сённяшні дзень мы спадзяемся, што нарваўскія гімназісты „прачнуцца” і пачнуць чытаць „Зорку”.

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**

# Цудоўнае вяртанне

*(падляшская легенда)*

Гэтае здарэнне памятаюць яшчэ старыя людзі ад Кляшчэляў. Дзевяноста гадоў таму, у час, калі жыхары вёскі Сакі вярталіся з прымусовага выгнання з Расіі, здарыўся жахлівы выпадак. Цягнік, якім дабіраліся дамоў, папаў у катастрофу. У выніку катастрофы загінула многа пасажыраў. У цэлым складзе ацалеў толькі адзін вагон. У ім вярталіся на радзіму людзі з Сакоў. Яны ведалі хто ацаліў іх ад нечаканай смерці. Разам з вяскоўцамі падарожнічала цудоўная ікона святога Дзмітрыя. Ікону забралі з сабой у бежанства, дзе сцерагла іх ад лютых прыгод і жахлівых эпідэміяў. Цяпер вярталіся з іконай на сваю зямлю.

Падляшы — людзі памяркоўныя. Яны ў цішы і разумнай удумлівасці славяць свае святыні. Культ святога Дзмітрыя, божага воіна і ахоўніка зняволеных, звязаны з царкоўкай у вёсцы Сакі, непадалёк Кляшчэляў. Месца напамінае Святую Гару Грабарку.



У падножжы ўзгорка, на якім знаходзіцца царква і могільнік, прыаздоблены соснамі, цячэ рачулка. Гэтае месца, як кажа легенда, было паказана народу Усявышнім. Жыхары Сакоў — патомныя баяры. У мінулым яны хадзілі ў ваенныя паходы з князямі, каралямі. У час адной бітвы малады баярын з Сакоў трапіў у турэцкую няволю. Яго заставілі працаваць у пякарні. Хлопец моцна сумаваў па бацьках, сваёй вёсцы, радзіме. Часта наведваў яго адзін сон. Сніўся яму жаўнер, які прасіў зняволенага: «Дапамажы мне». Баярын думаў дзень і ноч пра свой сон і не ведаў што яму рабіць. Як жа яму, зняволенаму і прыгнечанаму, несці дапамогу? Ён сам стаў бездапаможным, без шанцаў на выратаванне...

Аднойчы баярын прыкмеціў на затычцы ад печы выяву нейкага маладзёна, які напамінаў яму чалавека са сну. Ён далікатна выцер сажу, прытуліў да грудзей святыню і заплакаў. Слёзы рассвятлілі дошку з выявай, у якой наш хлапец распазнаў святога Дзмітрыя. Каб зберагчы ікону, баярын паклаў яе нанач сабе пад галаву. І, памаліўшыся Богу, заснуў непрабудным сном. Якое было яго здзіўленне, калі раніцай прачнуўся не ў турэцкай зямлі, а на ўзгорку каля сваіх Сакоў. Людзі, пабачыўшы цуд, паставілі на гэтым месцы царкву. І вераць, што святы Дзмітрый дапамог ім вярнуцца з бежанства, а сёння дапамагае пражыць кожны дзень, а калі трэба — чыніць цуды.

**ЗОРКА**

У час сустрэчы ў беластоцкай праваслаўнай школе нашай увазе прапанавалі верш, напісаны татам нашага школьніка. Верш і прапанова нам спадабаліся, таму сёння прапануем твор увазе нашых чытачоў. Адначасова віншуем спадара Роберта з дэбютам у „Зорцы” ды чакаем наступных твораў.

Роберт Войцех САВІЦКІ,
Беласток

## Бярозы

Раслі недалёка дарогі
Высокія, ды тонкія,
Сумныя як дзед убогі,
Чатыры бярозы белыя.

Ад раніцы да позняй ночы
Шумелі наўкол для ўсіх,
Суцяшаючы, супакойваючы
Думкі і кашмары іх.

Для птушак, што песень сваіх
Вучыліся з гэтай музыкі,
Для дзетак, калі ў школу ішлі
На ўрокі гісторыі й фізікі.

Толькі, калі сціснулі марозам
Восень з зімой суровай,
Абсыпаліся лісты бярозы
І заснулі, вясны чакаючы новай.

# Конкурс пра вясну (12)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам вясны. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу:

**1. Якое месца на Падляшшы звязанае з культам св. Дзмітрыя?**

*а) Супрасль,*
*б) Бельск,*
*в) Сакі.*

**2. З якой грамадскай праслойкі выводзяцца жыхары вёскі Сакі?**

*а) з баяраў,*
*б) з прыгонных сялян,*
*в) з мяшчанства.*

**3. Хто з'яўляецца лаўрэатам першага месца сёлетняга конкурсу гавэнды сярод гімназістаў:**

*а) Уля Беразавец з Ласінкі,*
*б) Агата Беразавец з Ласінкі,*
*в) Лукаш Марчук з Нараўкі.*

**4. У якой гімназіі найбольшая колькасць лаўрэатаў прадметнага конкурсу па беларускай мове?**

*а) у бельскай „тройцы" і ў Нараўцы,*
*б) у Беластоку,*
*в) у Гарадку і ў Кляшчэлях.*

Адказы дасылайце да 1 красавіка 2012 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі"). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

**Рашэнне конкурсу № 9:** У час Вялікага посту нашыя продкі дазвалялі слухаць лірніцкія песні з хрысціянска-дыдактычным зместам (а); цэнтр лірнікаў і вандроўных дзядоў знаходзіўся ва ўрочышчы Крыначка ў Белавежскай пушчы (в); у час Вялікага посту адзначаюць „Бацькоўскія суботы" — рэлігійна-народныя святы, прысвечаныя памяці продкаў (а); аўтар унікальнага кампакт-дыска „Ліра", на якім прэзентуюцца лірніцкія песні, былі, апокрыфы, народныя рэлігійныя гімны (таксама з тэрыторыі Падляшша) — Алесь Лось, мінскі мастак, этнамузыкант, этнолаг, іканапісец (а).

Узнагароды — **CD *Дзінь-Дзілінь: пара гуляць у казкі*** — выйгралі **Кшыштаф Давід Антанюк** з Арэшкава, **Магдаліна Скепка** з Беластока. Дадатковую такую ўзнагароду рэдакцыя прысвоіла **настаўніцы Анне Франкоўскай** за істотную і практычную дапамогу сваім вучням. Віншуем!

**ЗОРКА**

# Музыка з кайфам

## Пад публіку?

Адчуваецца вялікая напружанасць, калі ідзе пра беларускую музыку, пра актыўнасць музыкаў, часта пра актыўнасць чыноўнікаў. Можа варта таксама прыглядзецца публіцы? Выбачайце, сёння без гісторый, сёння паразважаем!

У Берасці гурт „The Fraiz" не сабраў чаканай публікі ў час прэзентацыі новага ды адначасна дэбютнага альбома. Музыкі расчараваныя гэтым фактам. Тым больш, што ў час менскага канцэрта не хапала ў клубе месца і не ўсе ахвотныя змаглі ўвайсці ды паслухаць. Трэба толькі адзначыць, што розніца паміж канцэртамі ў тым, што сталічны быў проста дармовы. Гэта не таямніца, што людзі найбольш ахвотна прыходзяць, калі за канцэрт плаціць не трэба, а колькасць такіх канцэртаў спрычыняецца да таго, што і менш ахвотна выходзяць з хаты, калі на культуру трэба траціць нейкія грошы. Гэта аднак праблема не толькі беларусаў, хаця там якраз пачалі яе заўважаць. У Польшчы зараз артысты, мастакі, установы прыходзяць да высновы, што публіку трэба выхоўваць. Калі людзі ходзяць на пакупкі, калі час ад часу харчуюцца ў рэстаранах ці проста на горадзе, дык і на культуру не павінны шкадаваць грошай. Варта над гэтым задумацца і ўявіць сабе самую простую сітуацыю. Маем гурт, маладыя, але нават неабавязкова, дастаткова, што непрафесійныя. Гурт рэгулярна рэпетуе, набывае інструменты, караецей кажучы, інвесце грошы і энергію. Раз на нейкі час удаецца яму наладзіць канцэрт, але не прыходзіць шмат людзей, бо гурт малавядомы, не распаўсюджаны, без кампаніі, якая вядзе рэкламу і выдае альбомы. Таксама складаны лёс падзяляюць сотні, калі не тысячы гуртоў. Інтэрнэт дае шанц знайсці сабе публіку, але гэта таксама нялёгкі хлеб. Што можам зрабіць? Арыентавацца ў сваёй самай блізкай прасторы, падтрымліваць маладых мясцовых артыстаў, хаця б пацікавіцца прапановамі мясцовых устаноў.

Калі на пачатку года ў музычнай праграме, якую здараецца мне весці на хвалях Радыё Рацыя, прагучала песня з новага альбома „The Fraiz", сустрэлася яна з вельмі пазітыўнымі водгукамі слухачоў. Гэта таксама спосаб падтрымкі. Калі будуць такія галасы, будзе сэнс граць.




i_basovka@o2.pl

*Эва САКОВІЧ*

## Вясна

*І зноў прыйшла вясна да нас,*
*Зазелянела навокал.*
*Настаў цудоўны, цёплы час*
*І прыляцеў ужо сокал.*
*І сонца грэе ўжо мацней,*
*Трава назелянела*
*І час бяжыць ужо хутчэй*
*Прырода павесялела.*

# Вершы Віктара Шведа

## Наймацнейшае віно

Фізік на занятках
Запытаў Уладка:
— Скажы, вось якое яно
Наймацнейшае віно?

— Па-моему, гэта звычнае
Віно літургічнае.
Адзін толькі выпівае,
А наўкол усе спяваюць.

## Едзе Янка як маланка

Мая жонка за рулём
Па-прасту маланка!
Едзе быццам бы з агнём,
Або з ліхаманкай.

— Можа ўжо нервовы стан
У тваёй каралевы?
— Штосьці ўводзіць яе ў зман,
Пападае ў дрэвы!

# Галерэя ЗОРКІ



Фота Ганны Кандрацюк

**1. Імя і прозвішча:** Куба Ваўранюк (ПШ у Нарве).
**2. Твой любімы прадмет:** беларуская мова.
**3. У жыцці хачу стаць:** лесніком.
**4. У сяброў цаню:** сяброўства.
**5. Не люблю:** калі адны другіх празываюць брыдкімі мянушкамі.
**6. Па-беларуску размаўляю:** з татам, бабуляй і з настаўніцай беларускай мовы.
**7. Кніжка, якая мяне захапіла:** вершы Віктара Шведа.
**8. Падабаецца мне музыка:** пакуль не захапляюся музыкай.
**9. Твае ўлюбёныя стравы:** рыба і бульба.
**10. Твой любімы спосаб адпачынку:** так, люблю чытаць кніжкі...
**11. Калі дарасту хачу жыць:** у сваёй вёсцы, у Тыневічах.

# Польска-беларуская крыжаванка № 12

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклеенымі кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 8:**
Шафа, статак, Ян, замежжа, адліга, ода, квартал. Яздок, фінал, міна, снег, жарт, атол, скрыпач.

Узнагароды, CD „Дзінь-Дзілінь: пара гуляць у казкі", выйгралі **Вікторыя Артэмюк, Юстына Якубюк** з Бельска-Падляшскага, **Барташ Ламашкевіч, Рафал Новік, Дам'ян Анцутка** з Нараўкі, **Маргарыта Галёнка, Каміля Навіцкая** з Арэшкава. Віншуем!



Тэкст і фота
Аляксея МАРОЗА

# Пропуск у звышгімназічныя школы

Удзел у дэкламатарскіх і спявацкіх конкурсах, спартыўных спаборніцтвах ці тэатральных аглядах гэта прэстыж і разгортванне зацікаўленняў і ўмеласцей дзетак і моладзі, якія ў пазнейшым жыцці могуць ім спатрэбіцца, а канкрэтныя ўзнагароды, якія атрымліваюць пераможцы школьных спаборніцтваў цешаць вучняў і радуюць бацькоў. Аднак у выпадку гімназічных школ самай вялікай узнагародай для вучняў з'яўляецца перамога ў прадметных конкурсах, дзе ўсе лаўрэаты ваяводскіх адбораў маюць адкрытыя дзверы ў звышгімназічныя школы. Канешне, раней трэба паспяхова закончыць адукацыю ў гімназіі і падаць рэкрутацыйныя дакументы ў выбраныя ліцэі ці тэхнікумы. У гэтым годзе ў час Ваяводскага гімназічнага конкурсу па беларускай мове, які 5 сакавіка адбыўся ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім аказалася, што на 39 удзельнікаў ажно 37 асоб стала лаўрэатамі, а толькі 2 вучні — фіналістамі конкурсу.



Бельскія белгімназісты

Калі вучні пісалі тэст, настаўнікі і бацькі, што прывезлі гімназістаў на конкурс, з нецярплівасцю чакалі іх першых адчуванняў ад конкурснага змагання. Спартыўная зала Бельскага белліцэя, спалучаная непасрэдна з калідорам бельскай „тройкі", зручная для пісання тэстаў падчас прадметных конкурсаў з-за магчымасці размяшчэння ўсіх вучняў у адным месцы.

— Думаем, што конкурс быў лёгкім, — пачуў я першыя выказванні бельскіх белгімназістак Аляксандры Варшыцкай і Кінгі Бадавец, якія хутка справіліся з конкурснымі задачамі. — Спадзяваліся мы больш складаных задач і большай колькасці практыкаванняў па граматыцы, але калі пазнаёміліся з задачамі, абрадаваліся. Найцяжэйшымі, хіба, былі задачы на падставе вершаў, але і гэтыя практыкаванні не былі надта складанымі.

Павел Дамброўскі і Філіп Капацкі, таксама з бельскай „тройкі", пацвердзілі, што конкурсныя практыкаванні не былі складанымі.

— Варта было прыступіць да прадметнага конкурсу па беларускай мове, бо калі станем лаўрэатамі, то будзем маглі паступіць без конкурсу ў Бельскі белліцэй або іншую выбраную намі школу, — гаварылі бельскія белгімназісты. Іншыя гімназісты таксама звярталі ўвагу на вялікае значэнне перамогі ў прадметным конкурсе, які дае магчымасць спакойна паступаць у выбраную звышгімназічную школу.

— Конкурс быў вельмі простым і амаль не было ў ім граматыкі. Толькі ў адным практыкаванні трэба было ўсюды паставіць адну літарку „у". Добра, што граматыкі так мала было, бо мы яе і не любім. Пытанні па літаратуры таксама не былі складанымі. Можа задача пра бежанства крыху цяжэйшай была, але таксама не была яна складанай, — расказвала Дар'я Вапа з Гімназіі № 7 у Беластоку, мінулагодні лаўрэат першага месца ў прадметным конкурсе, якая хоча паступаць у Ліцэй № 3 у Беластоку. У гэты сам ліцэй хоча ісці вучыцца таксама Павел Засім з Гімназіі ў Нараўцы і там працягваць адукацыю на роднай мове. А яго школьныя сябры ў сваю чаргу будуць паступаць у Гайнаўскі белліцэй.

— Я хачу вучыцца ў Беластоку, бо там больш атракцыёнаў. Там таксама буду вучыцца беларускай мове, — сказаў Павел Засім. — Многа трэба было пісаць, але конкурс быў лёгкім. Можа крыху цяжэйшым быў аналіз твора „Шляхам стагоддзяў", дзе між іншым выступае персанаж князя Усяслава Чарадзея, — сказаў Павел Засім, гімназіст з Нараўкі. — Да граматыкі мы мнагавата рыхтаваліся, а тут граматычных задач амаль не было.



Гімназісты з Нараўкі

Яго школьныя сябры Кася Трусевіч, Анджаліка Скепка, Караліна Рэент, Паўліна Марчук і Лукаш Марчук дадалі толькі, што многа рыхтаваліся да конкурсу. Паўліна Раманюк са школы ў Чыжах таксама многа рыхтавалася і таму меркавала, што ўдала справілася з практыкаваннямі. Аднак, як пасля аказалася, вучні рабілі памылкі і трацілі балы ў, паводле іх, лёгкіх практыкаваннях. Добра, што страціўшы да 12 балаў на 60 магчымых, маглі стаць яшчэ лаўрэатамі.

На падставе выказванняў вучняў і членаў журы ўдалося мне даведацца пра конкурсныя задачы. Гімназістам трэба было правесці аналіз вершаў „Калі ласка" і „Сляды" Петруся Броўкі з ухілам на пастаўленыя побач іх пытанні, пісалі яны аб'явы на конкурс „Пазнай Беларусь", апісвалі Белавежскую пушчу з выкарыстаннем пададзеных слоў, састаўлялі дыялогі на школьную тэму, мусілі ўставіць прапушчаныя літары, адказаць на пытанні пра бежанства 1915 года і працаваць на тэксце з ухілам на гісторыю Беларусі і беларускую літаратуру.

— Бывала, што ў мінулых гадах вучням было складана справіцца з некаторымі задачамі па граматыцы, напрыклад такімі, што тычыліся лічэбнікаў і таму вучні задаволены, што ў гэтым годзе ў час ваяводскіх адбораў было толькі адно практыкаванне па граматыцы. Больш матэрыялу па граматыцы было ў час школьнага і раённага этапаў. Добра, што было многа адкрытых задач і працы з тэкстамі, бо на падставе гэтага можна праверыць, як вучні валодаюць беларускай мовай, а таксама якія ў іх веды, — гаварыла член конкурснай камісіі, настаўніца беларускай мовы ў Чыжах Валянціна Андрасюк.

— Мы практычна ўсе пытанні, што паяўляліся ў конкурсных задачах, перараблялі ў нашай школе, — гаварылі, радыя атрыманню звання лаўрэата, Пётр Аўксенцюк, Ася Целушэцкая і Паўліна Аўласюк. Рыхтуючыся да конкурсу, працавалі яны паводле падрыхтаваных арганізатарамі праблем для разгляду і спіску літаратуры. Усе мае суразмоўцы выходзілі з ваяводскіх элімінацый з надзеяй, што ўдала справіліся з пытаннямі і стануць лаўрэатамі. Настаўнікі не маглі адразу выказаць сваіх меркаванняў наконт конкурснага тэсту, бо маглі пазнаёміцца з ім толькі ў пазнейшым часе. Затое можна было ад іх даведацца, на што звярталі ўвагу працуючы з вучнямі ў час падрыхтоўкі да конкурсных змаганняў. Рыхтавацца да конкурсу вучням дапамагалі іх настаўнікі перш за ўсё ў час пазаўрочных заняткаў. У некаторых школах узніклі нават гурткі беларускай мовы з мэтай падрыхтоўкі вучняў да конкурсаў. Нашыя педагогі згодныя, што найбольш часу трэба прысвяціць прадметнаму конкурсу і практычна ад пачатку школьнага года вядзецца падрыхтоўка да змагання за званне лаўрэата.

— Падрыхтоўка да прадметнага конкурсу пачынаецца ў нашай школе практычна з першага класа гімназіі, калі вучні працуюць паводле праграмы навучання. Першакласнікам, якія рыхтаваліся да прадметнага конкурсу ў падставовай школе, я даю ўжо час адпачыць, а да гімназічнага конкурсу прыступаюць у нас вучні другіх і трэціх класаў. З верасня працуем па граматыцы і калі нават, так як у гэтым годзе, мала задач па граматыцы, здабытыя веды і ўмеласці вучні маюць магчымасць выкарыстаць у час аналізу тэкстаў, каб не зрабіць памылак або каб зрабіць іх як найменш. Я стараюся, каб асноўныя веды па граматыцы вучні вывучылі як малітвы і, пішучы сказы, ужо не задумваліся над правапісам, толькі думалі як саставіць правільныя і цікавыя сказы, — гаварыла настаўніца беларускай мовы ў Нараўцы Анна Кандрацюк.

— Рыхтуючы вучняў да конкурсу мы на чарзе аналізавалі конкурсныя пытанні, паводле якіх трэба было рыхтавацца, — сказалі настаўнікі беларускай мовы Валянціна Бабулевіч і Андрэй Мароз з бельскай „тройкі".

— Узровень конкурсных прац быў добры, але і конкурс не быў цяжкі. Ключ адказаў быў празрысты. Вучні ўдала справіліся з задачамі, пры якіх трэба было працаваць з тэкстам, паказаць гістарычныя веды і ўмеласць карыстацца беларускай мовай. Найменш падрыхтаваныя вучні не перайшлі са школьнага на раённы этап, дзе праводзіўся чарговы адбор. Да ваяводскіх элімінацый прыступілі самыя лепшыя гімназісты і таму такі вялікі поспех. Больш граматыкі было на школьным і раённым адборах. У час ваяводскіх элімінацый было мала граматыкі, з якой нашым вучням хіба найбольш складана справіцца, — расказвала пасля праверкі конкурсных прац старшыня конкурснай камісіі, настаўніца беларускай мовы ў бельскай „тройцы" Валянціна Бабулевіч. — Найцяжэй вучням было адказаць на некаторыя дэталёвыя пытанні пра бежанства 1915 года. Гімназісты рабілі таксама памылкі ў час састаўляння дыялогаў, устаўлялі русізмы або паланізмы.

Пасля праверкі конкурсных прац аказалася, што першае месца з максімальнай колькасцю 60 балаў занялі **Дар'я Вапа** (Гімназія № 7 у Беластоку), **Паўліна Аўласюк** (Гайнаўская белгімназія), **Аляксандра Якімюк**, **Адрыян Карчэўскі** і **Дар'я Шыманюк** (Гімназія № 2 у Гайнаўцы) ды **Дамініка Карпюк** (Гімназія ў Дубічах-Царкоўных). На другім месцы з 59 баламі апынуліся **Аніта Дмітрук** (Бельская белгімназія) і **Паўліна Марчук** (Гімназія ў Нараўцы), а трэцяе месца з 58 баламі занялі **Анна Нікіцюк**, **Аляксандра Сарокін** і **Аляксандра Варшыцкая** (Бельская белгімназія), **Аляксандра Конюх** і **Юлія Савіцкая** (Гімназія № 7 у Беластоку). Лаўрэатамі сталі 15 асоб з Бельскай белгімназіі, 6 вучняў з Гімназіі ў Нараўцы, 4 асобы з Гімназіі № 2 у Гайнаўцы, па 3 асобы з Гайнаўскай белгімназіі і Гімназіі № 7 у Беластоку, па 2 асобы з гімназій у Дубічах-Царкоўных і Орлі і па 1 асобе з гімназій у Чыжах і Дубінах.

Дэбют

фота Міры ЛУКШЫ



Аляксандра БЯЛЯЎСКАЯ

# Часопіс (фрагмент аб няволі азіята)

### *14.10.2011*

Божа! Не ведаю, што рабіць! Жонка напэўна мяне ўгноіць і яшчэ выжане з хаты! Дзе шукаць мне дапамогі для сябе і для гэтага дзядзькі, што зараз у нашай летняй кухні? Рука дрыжыць, пазней, пазней напішу.

Адчуваю сябе добра, ціск ужо апаў, хаця выпіў дзве чаркі... Магу ўжо ўздыхнуць з палёгкай, а ўсё ж — дзіўна. У лесе сёння як заўсёды секлі дрэвы, цягалі калоды, елі. У трэцюю ўсе хлопцы селі на ровары і пацягнуліся хто куды — у свае бакі. Міша казаў, што ягоная жонка ўчора прыцягнула мяшок апенек і я падумаў, што вярнуся дахаты і хутка скочу з мяшочкам ці двума ў лес (я ж не Мішава жонка, больш прывалаку!). Кінуў я ровар пад клуняю і пабег па апенькі. Не адышоў далёка і бачу: як тыя кветкі, прычапіліся яны да пня! Рэжу грыбочкі, і ад радасці яшчэ й свістаў бы, але ў губах якраз цыгарэта, і шкада, каб упала ў кастрыцу. Падымаю раптам галаву, а нада мною — азіят! Мая цыгарэта ўпала, так я разявіўся на таго азіята. Стаіць дзядзька, вочы як залатоўкі, і паказвае на мяшок. „Напэўна бандыт! — падумаў я. — Бандыт-азіят прыйшоў у мой лес ды дамагаецца маіх апенек! — мільганула мне ў галаве такая думка. — Яшчэ адбярэ ў мяне мой каштоўны збор!”

— Чаго хочаш? — спытаўся я, а той мне ў адказ — па-азіяцку!

— Не разумею, — крычу, — ды апенек не аддам, ідзі сам назбірай!

Я ўжо асмеліўся, таму што той азіят маленькі, сухенькі ды старэнькі, дык калі б нават скочыў на мяне, дык чаго мне баяцца: у мяне ж нож ды досыць маладая бадзёрасць! І паказваю азіяту свой козік, той самы, з жоўтай калодкай, што Крыся купіла на рыначку ў Гайнаўцы, бо былі па залатоўцы; з такім добра ў лес ісці, бо калі згубіш, не будзеш шкадаваць. Гэтым ножычкам не пакрыўдзіш нікога! Азіят падскочыў, махае рукамі, паказвае на рот, што галодны. Добра ведаю я сённяшніх бандытаў! Увесь час іх паказваюць па тэлевізары, што старэйшых людзей (я яшчэ не такі стары, ды мае лясныя апранахі дадаюць мне гадоў) атакуюць падазроныя індывіды. І так стаю з нажом у далоні ды думаю, а азіят заходзіцца ад плачу. Раве як тая баба! Яшчэ і трасецца. Пашкадаваў я яго, я ж бы яго не пакалечыў (закалоць толькі свінню ўмею, пеўняў і курэй рэжа мая Дар'я). Прыглядаюся я таму азіяту дэталёва — праўда, немалады, з барадкай, вопратка на ім ледзь трымаецца, з мяшком ён ды нейкай скрынкай. Цудак. Паказвае на свой жывот. Вандроўнік? Плача і штосьці ляпеча па-свойму. Нелегальны эмігрант ідзе ў Еўрасаюз! Усё! Капцы яму будуць. Дадуць яму пагранічнікі! Лепш бы я яго падвёз да мяжы і сказаў, каб пераскочыў на другі бок... Дзядзька галодны. Ану яго! Паказваю яму рукою, каб ішоў за мною. І касавокі дзядзечка пайшоў. Калі мы падышлі да клуні, я азірнуўся па баках, ці дзе суседзі не блытаюцца. Нікога не відна, ды я падумаў, каб на азіята надзець мяшок, ды раздумаўся: яшчэ хто ўбачыць, дык мяне возьме за кілера! Пасадзіў я азіята ў летняй кухні. Дар'і яшчэ не было. Распаліў я печку, нарэзаў хлеба, саланіны, памідораў. Азіят усё з'еў, выпіў гарбату. Зачыніў я кухню з азіятам усярэдзіне, а сам палез дахаты, каб падумаць. Каб хоць часам!.. Нічога я не выдумаў і чую, што прыехала Дар'я. Божа! Выбег я з хаты і адразу кажу жонцы, што ўзяў азіята ў няволю. Усенька расказаў, а Дар'я крычыць:

— Пакажы яго!

— У нашай летняй кухні, на печцы, ляжыць ён. Шкада чалавека.

— Ведаю! — крычыць далей Дар'я. — Пакінем яго тут.

Жонка заглянула ў мяшок і скрынку азіята. Нічога там страшнага ці цікавага не знайшла, апрача малой гітары. Я напаліў у печцы. Дар'я на стале паставіла таўканіцу і малако, і мы пайшлі далей думаць.

### *15.10.2011*

Яшчэ было цёмна, а я ўжо ў летняй кухні правяраў азіята. Ён ужо не спаў, і я яго завёў у прыбіральню. Мне было вельмі цікава, скуль гэты чалавек прыйшоў, хто ён, куды задумаў дайсці. Я ўсю ноч качаўся быў з боку на бок, мая жонка таксама. Каля восьмай гадзіны пайшоў я да Грышавага ўнука, каб пазычыў мне атлас. Хлопец прынёс мне малы школьны атлас і сказаў, каб не запэцкаць яго тлушчам ды каб не прасмярдзеў ён цыбуляй. Трэба будзе мне выпісаць свой атлас, абавязкова! Я надзеў акуляры, глянуў на рукі азіята, ці не запэцканыя, і паказаў карту свету. Азіят, відаць, чалавек недурны, хутка тыцнуў пальцам у даволі вялікую краіну. Я прыгледзеўся і прачытаў: „Кыргызстан!” Го-го! Я паказаў азіяту, дзе мы знаходзімся цяпер, і той штосьці мне сказаў.

— Дар'я, на якой мове ён гаворыць?

— А адкуль мне ведаць?

Ну, што ж, пазваніў я Крысі з такім жа пытаннем.

— Хммм.. Вы што? Выбіраецеся ў Кыргызстан?

Я прызнаўся ёй, што маем азіята. Крыся вельмі ўстрывожылася і сказала, што прыедзе да нас.

— Дар'я, твайго дваюраднага брата сын перакладчыкам! — уцешыўся я.

Косця дапытваўся, да чаго патрэбны ягоны сын і я адказаў, што для суседа. Я папрасіў, каб Косцеў Алік знайшоў нам перакладчыка кыргызскай мовы і паабяцаў яму, што скажу, для чаго ён нам патрэбны (бо адчапіцца не хацеў, зусім як яго бацька). Калі я выйшаў з хаты, каб нарубаць дроў, пачуў, што хтосьці іграе на гітары. Хтосьці! Мой азіят! Ды спявае! Я ўвайшоў у кухню і паказаў, што мне гэта вельмі падабаецца, ды папрасіў, каб іграў крышку цішэй. Азіят паказаў на сябе і сказаў: „Доктурбэк”. Яго імя здалося мне цікавым, у адказ я зрабіў тое самае. Добра было б з ім выпіць кілішачак, усё ж гэта наш госць... І ўсё ж я думаў, што будзе з ім ды з намі ў гэтай складанай справе. Калі я вяртаўся з-пад клуні, пабачыў, што Дар'я сядзіць і слухае Доктурбэка. Накрычаў я на яе, што трэба пільнаваць тэлефон, а не сядзець як на канцэрце. Дар'я сказала, што гэта сапраўдны канцэрт, я пагнаў яе дахаты, а сам застаўся слухаць. Я падумаў, што трымаем Доктурбэка як арыштанта і стала мне сорамна. Хто з маіх суседзяў зняволіў азіята? Ах, ах... Цяпер няма выйсця — калі скажу паліцыі, што трымаю азіята, дык палічаць мяне выкрадальнікам. Я так сядзеў і думаў. Прыбегла жонка і сказала, што Алік даў ёй нумар да перакладчыка. Мы пачакалі, і калі пацямнела, забралі Доктурбэка дахаты. Я ўжо набіраў нумар, ды раптам адчыняюцца дзверы, уваходзіць Лёнік ! Паглядзеў на нас і на Доктурбэка: „А гэта хто?”

І я Лёніку ўсё расказаў. Па вёсцы напэўна будуць гаварыць, хай лепш не выдумляюць невядома чаго... Лёнік схацеў паслухаць нашай размовы з перакладчыкам, я ўжо набраў нумар, а тут раптам убягае Крыся. Ледзь не плача, дзівіцца на Доктурбэка і кажа, што зараз мы, я і мая Дар'я, сталі злачынцамі. І што гэта будзе?!

— Будзе, будзе, калі не прычынішся! — крыкнуў я на Крысю і дадаў, каб села і не мяшала, бо будзем размаўляць з кыргызстанскім перакладчыкам.

http://www.geocaching.su




Калі азваўся голас у трубцы, я ўпэўніўся, што размаўляю з перакладчыкам, а калі той прызнаўся, што няма іншых перакладчыкаў з кыргызстанскай мовы ва ўсёй Польшчы, я вельмі ўцешыўся. Перадаў трубку Доктурбэку. Яны гаманілі досыць доўга, а мы не адважыліся спыніць размову. Доктурбэк спачатку плакаў, потым смяяўся, зноўку плакаў, зноўку смяяўся... На канец перадаў мне тэлефонную трубку. Перакладчык, відаць, таксама плакаў, бо дзьмуў у насоўку. Той перакладчык, Курманбэк, аказаўся сваяком нашага Доктурбэка — ягонага дзеда дваюраднай сястры сынам. Яны ніколі не бачыліся! Доктурбэк з'яўляецца вандроўным спеваком, які ходзіць ад вёскі да вёскі! Ён хацеў пашукаць лепшага жыцця ў Еўропе і так за тры месяцы дайшоў да нас. Вось які чалавек! Курманбэк падзякаваў ад сябе і Доктурбэка, што мы яго прынялі. Ён паабяцаў, што заўтра прыедзе па сваяка з Варшавы і дапаможа яму.

Дар'я паставіла на стол літар, спекла яечню з каўбасой. Лёнік пазваніў па сваю Маню, каб прыйшла ды пабачыла што ў нас робіцца, а тая прыбегла з Нінкай. Літра на ўсіх было малавата, ды бабам хапіла, каб пачалі спяваць. Гэта вельмі ўцешыла Доктурбэка. Заспяваў і ён. Зноў у нас быў канцэрт.

### *16.10.2011*

У 13 гадзіну прыехаў Курманбэк, таксама азіят, нават падобны да нашага, толькі маладзейшы, і абодва яны расплакаліся. Дар'я сёння падрыхтавала смачны абед, а я дастаў з буфета найлепшую самагонку. Не было нам чаго саромецца перад такімі гасцямі! Доктурбэк ведаў, што яго сваяк жыве ў Польшчы, ды не спадзяваўся, што з ім спаткаецца! Паабяцалі нас яшчэ наведаць. І хлопцы паехалі. Мы з Дар'яй стаялі ля варот і яшчэ махалі за кыргызцамі, калі на ровары пад'ехаў знаёмы пагранічнік (Сцёпаў і Анін сын).

— Ну, што ў вёсцы? — пытаецца.

— Нічога, — кажу я.

— Госці? — паказвае на самаход, які ўжо знікае за паваротам.

— Ну.

— З Гайнаўкі? Ха-ха? — удакладняе пагранічнік.

— З Гайнаўкі, хэ-хэ.







Тэкст і фота Рафала Віхневіча

# Пакаленне свабоды

*Што аб'ядноўвае, а што дзеліць палякаў і беларусаў? Адказаў на гэтае пытанне шукалі ўдзельнікі сцэнічных чытанняў п'ес у кавярні „Pod Blaszanym Kurem" у Познані.*

**Віталь Воранаў** — госць вечарыны

Хоць у наш час джынсы гэта ўжо звычайнасць, то ў савецкі час яны былі адзнакай заможнасці і сведчылі пра блізкія кантакты з Захадам. Нашэнне нагавіцаў з арыгінальнага матэрыялу (не мясцовых падробак) было своеасаблівым сімвалам.

Яго характар на прыкладзе Беларусі 1 сакавіка прадставіла тэатральная суполка „**Melancholikot**" падчас сцэнічнага чытання п'ес у кавярні „Pod Blaszanym Kurem". Падзея сталася часткай цыкла мерапрыемстваў, якія праходзілі ў межах Фестывалю беларускай культуры, зладжанага студэнтамі Навуковага кола ўсходазнаўства Універсітэта імя Адама Міцкевіча.

Першай прэзентавалася п'еса „Пакаленне джынс". Сабраныя госці маглі пабачыць п'есу, якая прадстаўляе рэчаіснасць маладога пакалення ў ізаляванай Беларусі. Краіна, у якой усё яшчэ захоўваецца кіраванне савецкага тыпу, розным чынам абмяжоўвае свабоду сваіх грамадзян. Джынсы для многіх становяцца сімвалам волі. Іх сінонімам у гэтым выпадку можа быць таксама забаронены плод, сарванне якога можа выклікаць шматлікія наступствы. Нягледзячы на пагрозы, маладыя людзі асляпленыя бляскам магчымасці быць уласнікам пары ўласных джынсаў. Думка пра штаны становіцца спосабам на ўцёкі ад шэрай рэчаіснасці, якая дамінуе ў іх атачэнні. У выніку, змаганне за здабыццё джынсаў становіцца таксама пратэстам супраць пануючага ў краіне ладу.

Апошнюю сцэну гэтай п'есы „Melancholikot" дапоўніў творам выкананым на піяніна адной з акторак. Сцэнарый п'есы быў напісаны ў 2007 г. Міколам Халезіным, беларускім драматургам і журналістам. Ён вядомы таксама як адзін з заснавальнікаў Беларускага свабоднага тэатра.

У другой пастаноўцы „Melancholikot" у трохі зменены складзе запрэзентаваў „Плошчу" Віталя Воранава. Ігра актораў асноўвалася на няспыннай замене месцаў і прылад, здавалася рэалізоўваць пэўныя прынцыпы тэатра абсурду. Як пазней сцвердзіў аўтар сцэнарыя, ён сам не бачыць у гэтым нічога абсурднага. Паводле яго, гэта толькі апісанне сітуацыі, сведкам якой ён калісьці стаўся.

Пасля заканчэння інсцэнізацыі адбылася кароткая сустрэча з Віталём Воранавым, які распавёў пра сітуацыю ў Беларусі. Як сам прызнаўся, традыцыя беларускага тэатра практычна перарваная. Згадаў таксама пра актыўнасць Беларускага культурна-асветніцкага цэнтра ў Познані, кіраўніком якога ён з'яўляецца. Пры нагодзе госць прэзентаваў таксама беларускія кніжкі, якія выйшлі ў Польшчы, дзякуючы грамадскай падтрымцы і выдавецтву „Белы крумкач". Як сцвярджае Воранаў, у Беларусі іх выданне было б немагчымым.

Арганізаванне мерапрыемстваў, якія закранаюць праблематыку Беларусі, мае велізарнае значэнне. Для беларусаў, асабліва для тых, якія з'яўляюцца ізгоямі ў сваёй уласнай краіне, гэта адзіная магчымасць самарэалізацыі і прэзентацыі праблем краіны, убачаных сваімі вачыма. Для нас, палякаў, гэта нагода пазнаёміцца з краінай, якой мы не ведаем, хаця жывем з ёй амаль што „праз сцяну". На жаль, сцяна тая штучна ўзмоцненая рэжымнай уладай у Беларусі і на гэты момант не бачна перспектываў яе разбурэння.

# http://belmova.at.tut.by

Дзіўная гэта рэч — беларуская мова. Здаецца, усё на свеце працуе супраць яе — глабалізацыя, уплыў моў больш моцных суседзяў, ну і самае галоўнае — абыякавае стаўленне саміх беларусаў. Кожны гэты чыннік паасобку і ўсе разам спрыяюць таму, што спакваля беларуская мова губляе свае пазіцыі ў супольнасці і пераходзіць у разрад калі не мёртвых, то па меншай меры ледзьве дыхаючых моў. Пры такіх абставінах вельмі дзіўным падаецца нейкае слова ці дзеянне ў абарону беларускай мовы, якое час ад часу, але ўсё яшчэ можна пачуць ці пабачыць. Сярод такіх „незвычайных" дзеянняў нагляддаецца з'яўленне сайтаў, мэта якіх — папулярызацыя беларускай мовы.

Сайт „Мова беларусаў", што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://belmova.at.tut.by**, узнік ужо даволі даўно — у 2003 годзе. Нягледзячы на гучную назву, ён не з'яўляецца нейкім лінгва-геаграфічным парталам. Усё значна прасцей — яго стварылі вучні і настаўнікі сярэдняй школы № 113 горада Мінска з экалагічным ухілам, адной з мэт якіх было прыцягненне ўвагі да беларускай мовы. Менавіта аб гэтым расказваецца на старонцы „Пра праект".

Паколькі сайт гэта школьны праект, то, адпаведна, патрабаваць ад яго вялікай колькасці рубрык і аздабленняў не выпадае. Стартавая старонка сайта прапануе нам на выбар беларускую ці англійскую моўныя версіі, але на апошняй некаторыя старонкі не змяшчаюць ніякай інфармацыі.

Што тычыцца рубрык сайта, то адной з найбольш цікавых падаецца ўсё тая ж „Пра праект". Акурат там вядзецца падрабязны расповед пра кожную рубрыку, даюцца парады як далучыцца да праекта, акрэсліваюцца такія вызначэнні, як удзельнікі і каардынатары праекта.

„Праект можна падзяліць на тры часткі: дыскусійная, метадычная, творчая. Дыскусійная частка прадстаўлена форумамі. З дапамогай форумаў удзельнікі ды каардынатары праекта абмяркоўваюць некаторыя тэмы наконт беларускай мовы. Тэмы форумаў дадаюць каардынатары. Удзельнікі могуць рабіць свае прапановы па новых тэмах. Для гэтага толькі трэба адаслаць ліст на электронны адрас аднаго з каардынатараў са сваёй прапановай", — распавядаюць аўтары праекта. Праўда, гледзячы на форум, цяжка сказаць, што ён за ўсім папярэднім часам існавання сайта карыстаўся вялікай папулярнасцю — на ім толькі шэсць тэм, якія змяшчаюць не больш за 20 каментарыяў кожная.

Другой найбольш цікавай рубрыкай з'яўляюцца „Творчыя работы". Там месцяцца вершы ўдзельнікаў праекта. Гэта, перш за ўсё, вучні мінскай школы № 113. Згодна ўмоў публікацыі, тэматыка твораў выключна адна — беларуская мова.

Старонка „Парады мовазнаўцаў" змяшчаюць спіс метадычных матэрыялаў, які ўжо ёсць на праектным сайце. „Усіх беларускіх мовазнаўцаў мы — каардынатары праекта — запрашаем змясціць свае метадычныя парады на праектным сайце", — распавядаецца на данай старонцы. Варта адзначыць, што мовазнаўчых артыкулаў для такога школьнага сайта там не малая колькасць. Ды і тэмы даволі арыгінальныя: „Паланізмы ў беларускай мове", „Кавалак ці кусок, гарбата ці чай, гатунак ці сорт?", „Правапіс *у*, *ў* у словах неславянскага паходжання" і іншыя.

Вельмі цікавай мусіла быць і рубрыка „Навіны праекта", але, на жаль, яна не абнаўляецца ад лістапада 2009 года.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

# Скарбы Беларусі

**Байкі Крапівы**

Практычна ўсе, хто заканчвае сярэднюю школу ў Беларусі, усё роўна — у горадзе ці ў вёсцы, з беларускай літаратуры запамінаюць прозвішчы галоўных нашых песняроў — Купалы і Коласа, могуць нават прадэкламаваць пару паэтычных радкоў з іх твораў. Найбольш дасведчаныя назавуць яшчэ магчыма Багдановіча і Дуніна-Марцінкевіча, Багушэвіча і Быкава. Але найбольш цытаваным у народзе быў і застаецца Кандрат Крапіва. Ягоныя байкі даўно разышліся на крылатыя выслоўі, намнога пераважылі аўтара і даўно ўспрымаюцца многімі як народныя прымаўкі. Французы маюць Ляфантэна, расіяне — Крылова, а мы — Крапіву. Такі псеўданім абраў сабе Кандрат Атраховіч яшчэ ў маладосці. У 1922 годзе ён напісаў з самаіроніяй: „Я ў мастацкім агародзе толькі марная трава". Але ў тым жа вершы ў канцы хітра перасцярог: „Я — пякучка-крапіва".

Да творчасці пісьменніка, які пражыў доўгае, амаль стогадовае, жыццё, пераважна пры савецкай уладзе, можна ставіцца па-рознаму. Можна, прыкладам, знайсці ў яго творах нямала сацыялістычна-вульгарнага, па-бальшавіцку атэістычнага і сканцэнтравага менавіта на гэтым. Зараз развялося нямала крытыканаў, якія дзеля выяўлення ўласнага інтэлектуалізму, гатовыя каго хочаш з класікаў збэсціць. Тое, што самі нічога не стварылі адметнага — не заміна. „Другі баран — ні „бэ" ні „мя", а любіць гучнае імя".

Кандрата Крапіву мы любім за іншае. За сялянскую простасць (але не прымітыўнасць!) стылю, за беларускае дасціпнае вострае слова, якое кшталтаваў ён, прайшоўшы няпросты жыццёвы шлях, спакваля вырастаючы з сваёй роднай вёскі Нізок на Уздзеншчыне. Вёска, дарэчы, унікальная, якая дала нашай літаратуры і культуры нямала выдатных асоб. З майстроў слова варта прыгадаць хоць бы Паўлюка Труса і Лідзію Арабей.

Крапіва сталеў разам з беларускай літаратурай XX стагоддзя, ён прайшоў школу „Маладняка" і „Узвышша". Ён заўсёды быў верным ідэалам сацыялістычнай рэвалюцыі, але сапраўды шчыра ў гэта верыў. Гэта не замінала яму сатырычна трапна выяўляць найгоршыя якасці, заганы чалавечай прыроды — ганарлівасць і пыху, плёткарства і зайздрасць, гультайства і падхалімства, хабарніцтва і прагавітасць. Сярод герояў баек Кандрата Крапівы амаль няма экзатычных для нашых прыродных рэалій жывёл, затое спрэс фігуруюць мясцовыя персанажы — Баран, Вол, Авадзень, Сава, Парсюк... У героях гэтых людзі могуць пазнаць сябе, схамянуцца, вярнуць самаіронію, хоць „бывае, праўда вочы коле...". Разам з тым у творах Крапівы няма навязлівай павучальнай дыдактыкі, яны чытаюцца лёгка, на роўні адпачынку і рэлаксацыі. Пісьменнік трапна выкладае камічную сітуацыю нейкай жыццёвай з'явы, з якой вынікае лагічная развязка з класічнай байкавай канцоўкай. Пісаў Кандрат Крапіва і празаічныя творы, у якіх зноў жа яскрава выявіўся сатырычны талент. Найбольш папулярнай стала камедыя „Хто смяецца апошнім", якую таксама расцягнулі на цытаты.

Байкі Крапівы нараджаліся з глыбіні народнага гумару, вясковай кемлівасці, пераджылі дзесяцігоддзі з тым, каб вярнуцца ў той самы народ, які ўжо амаль страціў і дасціпнасць, і вастрыню слова, і ўласна саму мову. Актуальныя яны і сёння, у час „дыпламаваных бараноў" і „ганарыстых парсюкоў". І не страляйце ў класіка, які сам адказаў крытыканам: „Мне часта крыкуны мільгаюць у вачах — да славы прагныя, ды вузкія ў плячах".

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

Уладзімір СІДАРУК

# Сігнал на трывогу

Чыгуначная аварыя пад Шчэкацінамі на Шлёнску зварухнула ўсю краіну. Пацярпелі людзі. Шаснаццаць смяротных ахвяр, пяцьдзесят восем параненых апынулася ў шпіталях... Дзе шукаць прычыны гэтага трагічнага здарэння? Зачым пачуем афіцыйны адказ ад органаў праваправадку і членаў дзяржаўнай камісіі, якая займаецца расследаваннем чыгуначных аварый, паспрабую адказаць на зададзенае пытанне як прагматык і былы чыгуначнік. Пакажу свой пункт гледжання.

Аб балагане і паталагічных з'явах на чыгунцы гаворыцца здаўна. Але ніхто рашуча не займаўся справай — ні цэнтральная вярхушка ПКП, ні кіруючыя палітыкі. Квітнела растрачванне дзяржаўнай маёмасці, царыла негаспадарнасць. Даўней гаварылася аб чыгунцы як аб прадпрыемстве, якое патрабуе рэструктурызацыі. Прыкладам Еўрасаюза, у 1991 г. з васьмі чыгуначных дырэкцый вылучылі больш шасцідзесяці суполак з вялікай колькасцю высокааплатных чыноўнікаў, якія толькі сочаць за прыбыткам, а не клапоцяцца аб прадпрыемстве. Доказам гэтаму можа быць мінулагодні балаган з раскладам язды. Быў тады адхілены ад пасады віцэ-міністр інфраструктуры, але праблема брудных вагонаў, устарэлага чыгуначнага саставу і зношаных пуцей засталася. Заганнай з'явай у функцыянаванні чыгункі бачу ў адсутнасці каардынацыі паміж паасобнымі суполкамі. Прыкладаў не стану далёка шукаць, першы з боку — станцыя ў Чаромсе. Шыкарны вакзал з прасторнай залай чакання быў здадзены ў карыстанне ў 1989 г. Гэта вынік добрасумленнай працы шматлюднага рабочага калектыву (гаворка ідзе аб грамадскіх пачынах). Вакзал пераняла Прадпрыемства чыгуначнай маёмасці. Зараз будынак амаль пустуе. Пагранічнікі перасяліліся ў новазбудаваную заставу. Неўзабаве вакзальны будынак пакінуць мытнікі ліквідаванага Мытнага аддзялення. Білетныя касы змяшчаюцца ў прыватным будынку. Пасажыры вымушаны зараз цiснуцца ў маленькім калідорчыку або стаяць пад адкрытым небам на падворку. А пачакальня — хоць танцуй, пустуе. Прычына ў тым, што Прадпрыемства чыгуначнай маёмасці назначыла Прадпрыемству рэгіянальнай перавозкі надта вялікія арэндныя стаўкі. Ці так павінна выглядаць супрацоўніцтва паміж чыгуначнымі прадпрыемствамі? Іншы прыклад. У апошніх гадах Польскія чыгуначныя лініі (ПЛК) пачалі высякаць дрэвы ў сумежнай з пуцямі зоне. З таго, што мне вядома, гэта амаль васьмдзесяцігадовыя сосны, каштоўны матэрыял для вытворчасці. А за бясцэнак прадалі іх некаторым адзінкам. Такія здзелкі надта бударажаць чыгуначнікаў. Але на „ўклады няма рады" — гаворыць прымаўка...

І апошняя справа. Еўрасаюз прызначыў на мадэрнізацыю чыгуначных ліній у Польшчы пяць мільярдаў злотых. Кіруючая краінай кааліцыя пахадайнічала за тое, каб 1 200 мільёнаў зл. перамясціць на дарожную інфраструктуру. Ці гэта мае быць адпаведная палітыка для ратавання чыгункі?.. Мне, пенсіянеру, не цяжка здагадацца, які лёс чакае чыгунку у бліжэйшай будучыні. Калі не зменіцца палітыка ўрада да стратэгічнага сектара нацыянальнай гаспадаркі, дык чыгунку прыйдзецца зааракць. Засадзяць яе лесам, а каралі будуць прыязджаць у пушчу на паляванне, так як даўней бывала.

Сяргей ЧЫГРЫН

# Верш пра вёску Козлікі

Шукаючы творы старэйшага беларускага паэта Анатоля Іверса (1912-1999), якому сёлета 15 мая спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння, для ягонай кнігі паэтычнай спадчыны „Аўсяныя росы", я перагартаў падшыўкі слонімскай раённай газеты за 1960-1970 гады. У адным з нумароў газеты за 1977 год натрапіў на падборку вершаў паэта, прысвечаных Польшчы. Якраз тады Анатоль Іверс наведаў суседнюю дзяржаву. Ён пабываў у Плоцку, дзе ў 1930-х гадах служыў у польскай кавалерыі. Наведаў паэт і Беласточчыну, праязджаў праз вёску Козлікі, у якой нарадзіўся Герой Савецкага Саюза, маршал Васіль Сакалоўскі (1897-1968), беларус.

Пасля вяртання з Польшчы, Анатоль Іверс напісаў цыкл вершаў, прысвечаных дзяржаве-суседцы. Гэта вершы „Працуе Вісла", „Зацесна Нарве ў берагах", „У Плоцку", „Над Віслай". Яны былі надрукаваны не толькі ў слонімскай раённай газеце, але і ў нашым тыднёвіку „Ніва". У слонімскай падборцы быў яшчэ адзін верш, які называецца „Вёска Козлікі", а ў „Ніве" я яго не знайшоў. Сёння прапаную чытачам „Нівы" верш Анатоля Іверса пра вёску Козлікі і фотаздымак паэта з 1930-х гадоў у форме польскага жаўнера.






Анатоль ІВЕРС

## Вёска Козлікі

Ад Беластока ехалі мы ў Бельск,  
І справа вёска Козлікі мільгнула.  
Цвілі сады, і яблынева бель  
Маё дзяцінства моцна закранула.  
Сяло заўсёды мілае. А тут...  
Радзіўся слаўны маршал Сакалоўскі.  
Здаецца, дрэвы тут бялей цвітуць  
І сыплюць квецень у другія вёскі.  
О, колькі вёсак, дальніх берагоў  
Сустрэлі шчасце — свята Перамогі.  
Цяжэй было б, напэўна, без яго  
Разбіць фашызм, прыйсці ў свае парогі...  
Святыя месцы, будзьце на зямлі,  
Каб мы маглі прыехаць і наведаць,  
Дарогі тыя ўспомніць, што прайшлі,  
І болей — радасцяў, і меней — бедаў.

**Анатоль ІВЕРС**

**1977 г.**

# Адгаданка

1. касцяк, 2. шляхетны белы грыб, 3. ваўняная або баваўняная тканіна з доўгім ворсам, 4. пасярэдзіне жывата, 5. Ян, 6. свіран, 7. ранг чыноўніка, 8. першы афіцэрскі чын у даўнім рускім флоце, 9. памяшканне для свіней, 10. любімы спорт Аляксандра Лукашэнкі, 11. патаемна цвіце ў купальскую ноч, 12. фурманка, 13. канчына.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — іспанская пагаворка. **(ш)**



Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 7 нумара**

Бег, бой, Гоа, Гобі, соя, хобат, цана, Ціта.

Рашэнне: **Бойся Бога і таго, хто Бога не баіцца**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Вользе Гаворка** і **Антаніне Ахрымюк** з Беластока.

# 18.03 — 24.03

**(22.03. — 20.04.)** У тваё жыццё раптоўна ўварвуцца неспадзяваныя новыя падзеі. Добры час для пачынанняў. Можаш вырашыць турбуючыя цябе здаўна пытанні, дайсці да спакою, гармоніі і радасці. У другой палове тыдня мілыя сустрэчы, святкаванні, задавальненне.

**(21.04. — 21.05.)** На пачатку тыдня важная вестка ці кантакт, сустрэча, у выніку атрымаеш вельмі важную інфармацыю. Наладжаныя адносіны будуць мець сур'ёзны працяг. Добры час і для вырашэння пытанняў звязаных з маёмасцю і капіталаўкладаннямі. Пасля 20.03. маланкава рэагуй на нагоды, бо можаш праваронiць важнае, зашкодзіць сабе і шмат страціць.

**(22.05. — 22.06.)** Аж да 23.03. хопіць табе энергіі, адвагі і запалу! Справішся з усім, хоць будзе цяжкі выбар, за што брацца. Не распыляйся ў драбязе. Пад канец тыдня можаш адчуць эмацыянальную і фізічную стому ад парываў і перарасходавання сілы; адпачывай. Не еж салодкага, частуйся сушанымі пладамі і арэхамі.

**(23.06. — 23.07.)** Тыдзень поўны рамантычных імкненняў, хоць цяжка будзе дэталёва вырашыць пра пачуцці і спадзяванні, або сваю ўвагу да цябе будзе выяўляць некалькі асоб. Захавай спакой, вытрымку, пакарыстайся сваімі ўнутранымі сіламі. У час маладзіка Месяца (22.03.) можаш быць раздражнены; можа не хапіць моцы і адчаю, каб справіцца са старой праблемай.

**(24.07. — 23.08.)** З 21.03. тваё жыццё набярэ тэмпу. Распіраць цябе будзе энергія, будзеш узбуджаны, паявяцца непаўторныя шанцы. Прыйдуць поспехі, якія папраўяць табе настрой і самаацэнку. Перад табою вялікія чаканыя змены. Убачыш ясныя бакі жыцця ў тваёй пары. Стой за сваю пазіцыю, але і прыслухоўвайся да іншых.

**(24.08. — 23.09.)** Добры час заняцца папраўкай матэрыяльнага становішча, вырашэннем рабочых пытанняў, рамонтам жылля і іншымі зямнымі справамі, у чым гарантуецца табе поспех. Слухай каштоўных парад Скарпіёна і Казярога. З 23.03. зацікаўся справамі іншых, дапамажы ім.

**(24.09. — 23.10.)** Пасля 22.03. не бяры на сябе новых прапаноў, бо не дасі з усімі рады. Займіся тым, што маеш зрабіць і пагані хвасты, вучыся ад іншых і чакай свайго вялікага шанцу — поспех табе пісаны, ды нічога не прыспешвай. Не мітусіся і навонкі, і ўнутры, не пераймайся, захавай спакой і гармонію.

**(24.10. — 22.11.)** Да 20.03. нічто і нішто цябе не пераможа. Адчуеш сябе ў гармоніі з самім сабою. У аўторак і сераду не ідзі ў адпачынак, каб не прапусціць чагосьці важнага. У сярэдзіне тыдня парывы эмоцыі, знаёмствы, праяўленне сімпатыі, весялосць. Сакрэт твайго шчасця: у паслядоўных і абдуманых дзеяннях, што дае раўнавагу ў душы. У пятніцу не сядай на крэсла, не правераўшы яго трываласці!

**(23.11. — 22.12.)** На пачатку тыдня з планамі можа не пайсці гладка, ды не ідзі напралом, праяві хітрасць — зусім лёгка абыдзеш перашкоды. У сярэдзіне тыдня важная для тваёй будучыні вестка. 22.03. усё будзеш перажываць вельмі інтэнсіўна; дзейнасць на ўсю катушку стоміць цябе, не пападай у крайнасці. Пад канец тыдня адчуеш сябе лепш.

**(23.12. — 20.01.)** Дакладна прыглядзься важным для цябе справам. Не нервуйся ў тым, што патрабуе спакою і рацыянальнага падыходу. Пакінь страхі і сумненні ды ідзі ўперад па сваім шляху.

**(21.01. — 19.02.)** Да 20.03. добры настрой, баявітасць. З 23.03. могуць ускладніцца твае інтарэсы; пільнуй тэрмінаў, выканай абяцанні. Усміхнецца ўдача ў фінансавых справах — можа выйграш, вернуты грошы, заключэнне дамовы, што папраўць тваё становішча. Ды будзь памяркоўны, цешся і меншым.

**(20.02. — 21.03.)** З 20.03. паявяцца шанцы на лепшы заробак; карыстайся нагодамі (Рыбам народжаным 13.03. можа ўдацца здзелка жыцця!). Пад канец тыдня можа ахапіць цябе апатыя; не бярыся за новае (нават у планах), завяршай няскончанае.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH" i „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład**: 1 300 egz.

**Аўтобусы, што раней ездзілі ў Шацілы, цяпер ездзяць толькі да Крушынян, пакідаючы камунікацыйныя патрэбы жыхароў Шаціл, Нетупы і Саннік браць ім самім у свае іхнія рукі. Пацвярджаецца старая праўда, што беднаму вецер у вочы. Заўважаю гэта пры нагодзе падарожжа аўтобусам, які раней даязджаў да згаданых вёсак. Бо сам я пакінуў той аўтобус у Талькоўшчыне.**


Касцёл у Шудзялаве

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Каля Шудзялава

Ранейшым часам, праязджаючы цераз гэтую вёску, заўважаў я ў ёй дзейную краму і цяпер першыя свае крокі скіраваў я ў яе напрамку пабачыць ці яна яшчэ там выжывае. Шчаслівенька, гандлёвая ўстанова ў Талькоўшчыне адкрытая пакупнікам. Народу, праўда, у момант маёй там прысутнасці было мала, усяго тры асобы, якія, як мне здалося, прыйшлі туды дзеля адно абмену навінамі. Навонкі крамы дзве адмысловыя паветкі, каб пры больш спрыяльным надвор'і народ мог там пагутарыць у больш выгадных абставінах. Непадалёк ад крамы абноўлены будынак з бетоннымі падмосткамі, характэрнымі для нашых пунктаў прыёму малака; аднак сам будынак здаўся мне завялікім у параўнанні да іншых будынкаў згаданага прызначэння і таму не было ў мяне ўпэўненасці, што там было раней. З крамы выйшаў наведвальнік, які раней з'явіўся туды з боку Старога Трасцянога; яго я і спытаў пра загадкавы будынак. Так, быў там раней пункт прыёму малака, а цяпер ён у прыватных руках чалавека, які жыве крыху далей. Будынак малочнага пункта большы, бо ў адной яго частцы было абшырнае заплечча. Калісь, паінфармаваў мяне мой суразмоўца, быў у Талькоўшчыне таксама водны млын, ад якога асталася адно турбіна, пра якую таксама задбаў згаданы раней захавальнік мясцовай даўніны.

На скрыжаванні вясковай вуліцы з шашой з Беластока ў Крынкі стаяць два крыжы. На адным з іх, пастаўленым у 1982 годзе на цэментным пастаменце, малітоўныя „чанстахоўскія" рыфмы. На другім, пастаўленым на каменным пастаменце ў 1907 годзе, інфармацыя, што гэта ахвяра за здароўе католікаў Талькоўшчыны. Спытаў я свайго інфарматара, ці ўсе жыхары Талькоўшчыны з'яўляюцца католікамі.

— У Талькоўшчыне жывуць католікі, — адказаў ён, — у Старым Трасцяным адно праваслаўныя.

— А ў Новым Трасцяным?

— І адны, і другія. А ў Старым Трасцяным, — дадаў ён, — нядаўна, год таму, пастаўлены крыж, што калісь быў на шудзялаўскай царкве. Чалавек, які жыве побач, знайшоў яго з дапамогай дэтэктара металу. Шукаў ён яшчэ колішніх званоў з востраўскай царквы, што калісь былі закапалі, але іх не ўдалося яму знайсці. Калісь Востраў быў адной вялікай вёскай, — прадаўжаў ён, — але пасярэдзіне яе быў успыхнуў вялікі пажар, які трываў падзяліў яе, бо пажарышча не было адбудавана.

Падаўся я за сваім суразмоўцам у Старое Трасцяное, якое ад Талькоўшчыны аддзяляе толькі рэчка Слоя, пабачыць той крыж з колішняй шудзялаўскай царквы. Пры нагодзе пацікавіўся я, як называецца мой суразмоўца.

— Грыц.

— А Ваша імя?

— Юзаф. Так назваў мяне бацька *на чэсць* Сталіна. Бо я нарадзіўся тады, калі памёр Сталін.

— Сталін памёр, — заўважыў я, — 5 сакавіка 1953 года.

— А я нарадзіўся ў чэрвені таго ж года.

І дадаў ён яшчэ, што калісь чытаў „Ніву" і пацікавіўся, ці яна яшчэ выходзіць. І прыгадаў Міхася Хмялеўскага, што са згаданага раней Вострава... Цікавая справа гэтае ўшанаванне памяці слаўнага правадыра. Пастаўленыя яму матэрыяльныя помнікі былі з пачаткам „адлігі" знесены, назвы гарадоў, заводаў і калгасаў зменены, а вось такіх тонкіх памятак як імёны ягоных цёзкаў, прысвоеныя, мабыць, у больш шырокім савецкім і ваколсавецкім дыяпазоне, Хрушчоў і іншыя дэсталінізатары так і не здагадаліся выправіць...




Развітаўся я са сваім ветлівым суразмоўцам і падаўся назад у Талькоўшчыну. Вёска не адстае ад агульных плыняў, у які ўліваюцца нашы мясцовыя мясцовасці. Шмат хат перакрытых бляхай, абноўлены іх абліцоўкі — становяцца яны з месцаў вясковага штодзённага побыту месцамі выхаднога адпачынку гараджан. І яшчэ адна пазнака новага трэнду — інфармацыйная табліца пра мінулае мясцовасці; такая пастаўлена ў Талькоўшчыне захадамі тамашняга надлясніцтва. Інфармуе яна, што вёска была заснавана ў час валочнай памеры ў канцы XVI стагоддзя. Гэта тыповая шэрагоўка з галоўнай і загуменнай вуліцамі. У XVIII ст. быў там фальварак, які арандаваў татарскі афіцэр Талькоўскі — ад яго прозвішча і назва вёскі. У 1880 годзе ў вёсцы паўстала часальня воўны, якая працавала да Другой сусветнай вайны. У міжваенны час працаваў таксама водны млын, пра які была ўжо мова раней... Па вёсцы праехала аўтакрама, але не заўважыў я, каб хто да яе выйшаў.

З Талькоўшчыны падаўся я лясннымі дарогамі ў бок Новага Трасцянога. Крышку паблудзіўшы, выйшаў я на дарогу, што праляглга на насыпе былой вузкакалейкі. І хаця, здаецца, амаль ніхто па ёй не павінен ездзіць, усё ж такі маставую гэтай дарогі склаў лёд, крыху прысыпаны снегам, і хада па гэтай дарозе ў амаль адліжны час больш нагадвала фігурнае коўзанне. У Новым Трасцяным на расхадных дарогах накіраваўся я па жвіровай вузкай маставой, якая падалася мне быць вуліцай. Нямнога пры ёй хат, ды яны яшчэ захавалі свой вясковы выгляд, яшчэ там жыве насельніцтва вясковае, але нейкага сучаснага гаспадарання там не відаць. Затое паказаўся мне рэлікт нядаўняга мінулага — статачак шасці гусей, якія пакупаліся ў мясцовым раўчаку. З Новага Трасцянога думаў я быў выйсці ў напрамку Азярка, але паколькі не надта скрупулёзна выбіраў дарогі, дык выйшаў на задворкі Старога Трасцянога. Адбіўся я ў іншым напрамку, выйшаў на нейкі поплаў, на дарожку, якая вяла ў напрамку аддаленых хат. Невялікі прысёлак паказаўся амаль неабжытым, з дзвюма ці трыма дачнымі хатамі, дзвюма ці трыма разваленымі і такой жа колькасцю старых хат. На адным з панадворкаў стаялі дзве легкавушкі са свежымі слядамі за імі і можна было сумнявацца, ці хто яшчэ пастаянна пражывае ў вёсачцы. І што гэта за вёска, таксама нідзе не было пазнакі, нават на крыжах на яе канцы; пазней устанавіў я, што вёсачка называецца Равок. І заключыў, што нехта ў ёй усё-такі пастаянна пражывае, бо яшчэ падыходзячы да яе пабачыў я ката, які абходзіў калявясковы лапік поля; каты — так мне здаецца — могуць выжыць без мышэй, але без чалавека аніяк...




У Раўку ёсць яшчэ адно незвычайнае збудаванне — вышка, пабудаваная на высокіх слупах, нешта накшталт пажарнага назіральнага збудавання, аднак гэта не пажарная каланча, толькі прыватная вежа. Гэта своеасаблівы від творчай актыўнасці, своеасаблівая дача дзеля сузірання прыгажосці мясцовага краявіду. Некаторыя любяць пабудавацца над вадаёмамі ці на склонах высокіх узвышшаў, а калі такія тапаграфічныя аб'екты не надта пад рукою, тады і самому можна нешта выдумаць, асабліва ва ўмовах, калі ў прынцыпе ніхто не перашкаджае творчаму натхненню.

Равок па сутнасці апусцеў, але тое апусценне мясцовых вёсак відаць па тамашняй раслліннасці, якую зараз складаюць пераважна лясочкі, пасаджаныя ў час геркаўскай міграцыі з вёсак у гарады. Яшчэ там, значыць у заходніх акраінах Шудзялаўскай гміны, „шахаўніца" — перамежаванні палёў з маладымі лясамі, але выгляд вёсак падказвае, у які бок тая „шахаўніца" расце.

З Раўка зайшоў я ў Казловы Луг. Там ужо можна было ўпэўніцца ў назве мясцовасці не толькі па вывадным крыжы, але і па таблічцы з назвай вёскі. Таблічка тая нестандартная, выкананая, мабыць, у парыве нейкага грамадскага пачуцця інфармацыйнай патрэбы. Бо ў шматлікіх мясцовасцях няма тых дарожных інфармацыйных знакаў з іх назвамі. Мабыць яшчэ не настала мода хадайнічання мясцовых самакіраванняў за нейкімі вонкавымі сродкамі для інфармацыйных мэтаў; пакуль мода на новыя дарожныя палотны... У Казловым Лузе ўразіла мяне наяўнасць многіх старых хат, з чаго можна меркаваць, што вёску міналі тыя бедствы, якія прымушалі ўзводзіць новыя збудаванні.

У Казловым Лузе, так як у Новым Трасцяным і Раўку, вулічнае палатно жвіровае, затое ў прылягаючай да Казловага Луга Баратыншчыне — брук. І дзве гэтыя вёскі, падобна як Старое Трасцяное і Талькоўшчыну, аддзяляе тая самая рэчка — Слоя. У Баратыншчыне зацікавіў мяне невялікі запушчаны цагляны будыначак з устарэлым жалюзі ў акне на зарослым буйным пустазеллем панадвору і з шыкоўнай каванай самастойнай, без плота, брамай. У праходзячай жанчыны даведаўся я, што гэта колішні свіран, які шмат часу таму купіў муж *пеленгнярк*і з Саколкі. Але пасля сужонства перастала наведваць сваю маёмасць. Западозрыў я, што гэта з-за магчымай хваробы або нястачы грошай. Жанчына сказала адно таямніча, што гэтаму іншая прычына і трэба было мне дадумвацца, што нейкі чорны кот перабег таму сужонству дарогу... У Баратыншчыне і даўно ўжо пакінуты дзецьмі двухпавярховы школьны будынак.

Чарговыя вёска, Навінка, на мапе выглядае прыстойна, але наяўна яна літаральна развальваецца. І пра гмінае Шудзялава слоў пару. Паколькі аставалася мне крыху часу да ад'езду аўтобуса, рашыў я забегчы ў мясцовы Гмінны асяродак анімацыі культуры і рэкрэацыі, куды запрашала аб'ява ў краме з нагоды выстаўкі рукадзельных аздоб пад Дзень жанчын. Дырэктар асяродка, спадарыня Альжбета Ярашэвіч, паказала мне экспазіцыю, якая займала невялічкі стэнд у ейным кабінеце, а якую складалі галоўным чынам сплеценыя мясцовай моладдзю з лёну і штучнай пражы аздобы...

Перад будынкам Гміннага асяродка анімацыі культуры і рэкрэацыі ўмураваная мемарыяльная табліца з інфармацыяй, што на тым месцы ў 1601-1866 гг. стаяў касцёл. Наконт таго касцёла гісторыкі маюць розныя меркаванні, ці быў там толькі касцёл, ці было там два сакральныя аб'екты розных абрадаў, ці адзін, у якім адпраўлялі набажэнствы паводле ўсходняга і заходняга абрадаў. Сайт Беластоцкай архідыяцэзіі паведамляе, што пасля Студзеньскага паўстання царская ўлады зліквідавалі парафію, а касцёл замянілі ў царкву. У 1900 годзе ў Шудзялаве была ўзведзена новая, мураваная царква. Тую царкву раскідалі ў 1935 годзе, а з ейнай цэглы ў наступных двух гадах пабудавалі касцёл, але ўжо ў іншым месцы. Можна нават сказаць, што шудзялаўскі касцёл, асабліва ж яго галоўны будаўнічы матэрыял, уяўляе сабою своеасаблівы мясцовы, напрацаваны гадамі, экуменізм.

ISSN 0546-1960